# ⌘ АНАЛІТЫКА

ЗЬМІЦЕР САЎКА

# Мазаічная артаграфія

## З нагоды прыняцьця Правапіснага закону-2008

Аўтару гэтых радкоў ужо ня раз даводзілася выступаць на тэму новых зьменаў у беларускім афіцыйным правапісе. Летась «ARCHE» дало нам магчымасьць на 125 сваіх бачынах апублікаваць разгорнутую рэцэнзію на кадыфікацыйны дакумэнт, які тады мы назвалі Міністэрскім праектам, а з моманту яго прыняцьця Палатаю прадстаўнікоў і зацьверджаньня галавою дзяржавы ў чэрвені 2008 г. — Правапісным законам-2008[1].

«Правілы левапісу» выйшлі ў момант, калі Міністэрскі праект перабываў у стадыі абмеркаваньня і на яго канчатковы зьмест яшчэ можна было паўплываць. Спадзяемся, нам гэта ў нейкай ступені ўдалося (на адпаведныя месцы ўкажам у наступных разьдзелах). У тым тэксьце мы мусілі выяўляць вынаходлівасьць і абачлівасьць, імкнуліся пазьбягаць вострых праблемаў і жорсткіх фармулёвак, нават сам тэкст напісаць афіцыйным стандартам — усё дзеля таго, каб быць пачутым.

Аднак справа зробленая — праект стаўся законам. Цяпер можна адкінуць пэўную дыпляматычнасьць, эліпсы недагаворак ды замоўчваньняў і нарэшце назваць усё сваімі імёнамі.

### I. ЗЬНЯВЕЧАНАЯ ЭПОХАЮ

*Быў час, быў век, была эпоха.*
Сказ пра Лысую гару

Нібы на полі сечы — эпоха пакідае свае меткі на мове, у тым ліку на яе твары — артаграфіі.

Цягам XX ст. беларуская мова зазнала найглыбейшую функцыйную зьмену: пад прэсам татальнай асыміляцыі са сродку камунікацыі, які абслугоўваў істотную частку сфэраў жыцьця народу, мова ператварылася ў сродак самаідэнтыфікацыі ды «іншаідэнтыфікацыі», у сродак маніфэстацыі сьветапоглядных прыярытэтаў, нават у сродак мадэляваньня будучыні. Не пагаджуся з тымі, хто абураецца з «манкуртаў, што выракліся свайго роднага», г. зн. зь іншамоўнае большасьці. Віна гэтае большасьці

***Зьміцер Саўка*** *— мовазнавец, адзін з аўтараў праекту «Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя» (Вільня—Менск, 2005. — 160 с.).*

толькі ў тым, што яна выбрала стратэгію выжываньня. Такую стратэгію выбрала бальшыня зьніклых ужо нацыянальных супольнасьцяў, пра колішняе існаваньне якіх мы даведваемся адно з каналу «Дыскавэры». На такім тле лёс беларускае мовы выглядае не такім ужо гаротным — яна яшчэ існуе.

Іншая рэч: ці можна гэтае існаваньне назваць паўнавартасным жыцьцём, калі сам зьмест мовы, сукупнасьць яе праяваў, само напаўненьне паняткаў «беларуская мова, па-беларуску» вызначаецца не самаразьвіцьцём, ня сумаю вэктараў нутраной барацьбы рознаскіраваных трэндаў, а ў незраўнёна большай ступені — узьдзеяньнем вонкавых сілаў — як лінгвістычнага (іншамоўны ўплыў), так і палітычнага характару.

Трэба прызнаць, нават бальшыня беларускіх філёлягаў мае даволі цьмянае ўяўленьне пра гісторыю цяперашняга беларускага правапісу: за саветамі цікаўнасьць да гэтае тэмы не ўхвалялася (бо магла выявіцца сапраўдная роля савецкай улады ў «разьвіцьці» беларускае мовы), а ў постсавецкі час ужо было не да таго. У кароткія гады адраджэньня змагаліся за тое, каб Беларусь «загаварыла на мове», а пасьля — каб проста застацца ў прафэсіі — на тле скарачэньня гадзінаў на беларускую мову спачатку ва ўнівэрсытэтах, а пасьля сёлетняй адукацыйнай рэформы — нават і ў школе. Шырэйшая ж беларускамоўная публіка ведае толькі, што была граматыка Тарашкевіча, потым адбылася рэформа 1933 г., потым быў Звод-1957, якім і карыстаюцца дасёньня.

У сапраўднасьці ж шлях да цяперашняга стану артаграфіі быў незраўнёна больш пакручасты й на яго зьвівы, на жаль, больш уплывалі не грамадзкія абмеркаваньні ці дыскусіі навукоўцаў, а жорсткія рэаліі бурлівай савецкай, а цяпер ужо постсавецкай гісторыі. Каб выжыць, яму дасюль прыходзіцца «хістацца разам зь лініяй партыі».

## Замоўленая часам

Тарашкевіцы сёлета споўнілася 90 гадоў. Паказальны момант: Беларусь атрымала свой унармаваны правапіс адначасова з абвяшчэньнем незалежнасьці. Новая палітычная сытуацыя нібы абвясьціла тэндэр мовазнаўцам на напісаньне «бібліі мовы». У канкурэнтнай барацьбе за права стаць грунтам правапіснай кадыфікацыі ўдзельнічалі чатыры працы: апроч Тарашкевічавай «Biełaruskaj hramatyki dla škoł», практычна адначасова выйшлі «Hramatyka biełaruskaj mowy» Браніслава Пачопкі, «Biełaruski prawapis» Антона Луцкевіча і Яна Станкевіча (усе тры — у Вільні) і нарэшце — «Prosty spòsab stàcca ŭ karòtḱım čaśe hràmatnym» (Брэслаў, цяпер Уроцлаў) нямецкага мовазнаўцы Рудольфа Абіхта і таго ж Яна Станкевіча. Усе — лацінкаю. Граматыка Тарашкевіча кірыліцаю зьявілася ў тым жа годзе, але пазьней за лацінкавую[2].

Тарашкевічава кадыфікацыя перамагла канкурэнтаў з колькіх прычынаў: яна была найбольш грунтоўнаю, ахоплівала бальшыню артаграфічных калізіяў, у значнай ступені працягвала практыку беларускага друку папярэдняга пэрыяду; кніга ўтрымлівала практыкаваньні, што дазваляла выкарыстоўваць яе ў дыдактычных мэтах. Але быў яшчэ адзін чыньнік: «Граматыка для школ» зьявілася на замову беларускае палітычнае эліты.

[1] Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. — Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008.

[2] Adam Varłyha [Язэп Гладкі]. Praktyčnyja nazirańni nad našaj žyvoj movaj. New York, 1966. S. 26.

А сёньня, як бы ні ставіліся да тарашкевіцы крытыкі яе сучаснага выкарыстаньня, аднак і яны ня могуць адмаўляць відавочнага факту, які прызнаўся нават за савецкім часам:

*[Праца Тарашкевіча] прадстаўляе сабой першы і тым не менш вельмі ўдалы вопыт вылучэння асноўных заканамернасцей беларускай мовы. Прапанаваная аўтарам фанетыка-граматычная сістэма беларускай мовы замацавалася як сістэма яе літаратурных норм. ...Неабвержным доказам правільнасці выбранага напрамку ў развіцці беларускай літаратурнай мовы служыць тое, што сучасная беларуская літаратурная мова адлюстроўвае ўсе галоўныя асаблівасці і нормы, вызначаныя ў свой час Тарашкевічам*[3].

Такім чынам, усе пазьнейшыя праекты і рэформы бралі за аснову зробленае Тарашкевічам — нават калі выступалі з дыямэтральна процілеглымі разьвязаньнямі.

## Праект-1930[4]

1920-я гг. сталіся для мовы ў БССР часам вольніцы. Хоць і тады «мелі месца прыкрасьці», калі «прыкрасьцю» можна назваць, напрыклад, арышт «галоўнага артографа» БССР Язэпа Лёсіка ў 1922 г. — пасьля таго, як орган ЦК КП(б)Б газэта «Звезда» (тады яшчэ празь **е**) назвала Лёсікаву «Практычную граматыку беларускай мовы» контрарэвалюцыйнаю.

Несумненна, зь бегам часу правапісная практыка ставіла новыя пытаньні, адказы на якія не заўсёды знаходзіліся ў Тарашкевічавай працы. Братам Язэпу й Антону Лёсікам удалося надаць (калі не навязаць) прадстаўнічай Акадэмічнай канфэрэнцыі 1926 г. артаграфічны акцэнт, хоць пачаткова гэты міжнародны форум задумляўся, відаць, найперш як дэманстрацыя росквіту беларушчыны ў Краіне Саветаў і трыюмфу нацыянальнае палітыкі бальшавікоў.

Канфэрэнцыя, даўшы трыбуну як рэфарматарам, так і іхным апанэнтам, паклала пачатак рэгулярнай кадыфікацыйнай дзейнасьці: увосень 1927 г. утварылася Правапісная Камісія ў складзе акадэмікаў Сьцяпана Некрашэвіча (старшыня), Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Яна Луцэвіча (Купала), дацэнта БДУ Анатоля Багдановіча (сакратар), доктара навук Пятра Бузука, навуковых працаўнікоў Інбелкульту Янкі Бялькевіча і Ўладзіслава Чаржынскага.

Да 1929 г. улады яшчэ не мяшаліся ў нутраны працэс моўнага будаўніцтва. Лёзунг «нацыянальнае па форме, сацыялістычнае па зьмесьце» сапраўды працаваў: важна было ня *як*, а *што*. Таму сваю дзейнасьць Камісія пачынала ў адносна спрыяльных умовах, аднак працягваць ужо мусіла ў экстрэмальных...

Пад канец 1920-х гг. Савецкі Саюз уступіў у новую стадыю: забарона прыватнай уласнасьці (канец НЭПу), пачатак калектывізацыі ды індустрыялізацыі. Экспансіяністкія пляны («сусьветная рэвалюцыя») савецкага кіраўніцтва патрабавалі ўніта-

[3] І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мінск, 1968. С. 162—163.

[4] Беларускі правапіс (проект) / Апрацаваны Правапіснай камісіяй Беларускае акадэміі навук. — Мінск, 1930. — 59 с.

рызацыі савецкай імпэрыі, што прывяло да аднаўленьня русіфікацыі, якая праходзіла пад лёзунгамі «збліжэньня пролетарыяту і працоўнага сялянства ўсіх рэспублік СССР». Аднак адначасова са сталінскае рыторыкі яшчэ ня зьніклі заклікі барацьбы зь вялікадзяржаўным расейскім шавінізмам[5]. Тым жа мэтам служыла і разгортваньне ня бачанай дагэтуль у гісторыі рэструктурызацыі грамадзтва — зьнішчэньня традыцыйных станаў (саслоўяў), што вылілася ў барацьбу з «дробнаю буржуазіяй» і ўсімі яе праявамі, у тым ліку — у мове. У газэтах і на сходах усё гучней чуліся патрабаваньні вымесьці ўсё панскае, мяшчанскае, кулацкае, усё старое і прагнілае, даць дарогу здаровай творчасьці працоўных масаў.

На «нацыянальных ускраінах» спыняецца працэс «каранізацыі», «на месцы» прыбываюць дзясяткі тысяч чыноўнікаў расейскага паходжаньня, «нацыянальныя адраджэньні» імгненна затухаюць, а іх ідэолягі ды рэалізатары робяцца ня толькі непатрэбнымі, але і непажаданымі элемэнтамі. У Беларусі пачынаецца «барацьба з нацдэмаўшчынай»; у кастрычніку 1929-га Саўнаркам БССР звальняе Некрашэвіча з пасады віцэ-прэзідэнта Беларускай Акадэміі Навук і Правапісная Камісія тут жа спыняе сваю працу. Вынікі яе дзейнасьці ўсё ж такі выходзяць друкам на пачатку 1930 г.

Збольшага Праект-1930 працягваў і разьвіваў Тарашкевічаў правапіс[6], а таксама — спрашчаў яго, дзеля чаго прапаноўвалася, напрыклад:

— адмовіцца ад выключэньняў зь яканьня ў лічэбніках: дз**я**вя́ты, дз**я**ся́ты, с**я**мна́ццаць, вас**я**мна́ццаць, але пяцьдз**е**ся́т, с**е**мсо́т, вос**е**мсо́т;

— не скарачаць **у-**, **і-** на пачатку слова, у службовых словах **у**, **і** (*старая **у**дава*[7], *яна **і** ён*);

— пісаць апостраф пасьля мяккіх (замест *зьезд — з'езд*, *рэл'еф*, *кан'як*);

Такім чынам, ажыцьцяўлялася пэўная дэфанэтызацыя пісьма.

Цалкам слушнаю трэба прызнаць адмову ад самага спрэчнага тарашкевіцкага правіла — правядзеньня яканьня ў 2-м складзе перад націскам, калі ў 1-м пераднаціскным няма **а**/**я** (т. зв. «правіла якання ў другім складзе» або «правіла другога складу»):

| пад націскам | Пераднаціскныя склады | | |
|---|---|---|---|
| | 1-шы | 2-гі | 3-ці |
| *ле́с* | *— ля̲сьні́к* | *— лясьнікі́* | *— лесьнічо́ўка* |

Таму ў школе існаваў тэрмін «лічыць склады» — выяўляць месца націску і такім чынам выводзіць, «вылічваць», **е** ці **я** мусіць пісацца ў тым ці іншым слове на пэўным месцы. Калі ж у 1-м пераднаціскным складзе апыналіся **а** або **я**, то яканьне ў 2-м складзе не праводзілася.

[5] Як вядома, Ленін зьвяртаў увагу на схільнасьць Сталіна да праяваў расейскага шавінізму (праца «К вопросу о национальностях или об «автономизации»), таму «Сталин… раз за разом, начиная с X съезда и кончая XVI, декларировал, что «великодержавный шовинизм» является главной опасностью в области национальной политики» (Игорь Шафаревич. Русский вопрос. М., 2003. С. 88).

[6] Прыкладам, заставаліся напісаньні, што ў пазьнейшых кадыфікацыйных працах падлягалі зьменам: *аб'ежчык*; *парыскі*, *чэскі*; *гарадзкі*, *людзкі*; *бяз нас*, *ня руш*.

[7] Вядома, такі прыклад цяпер наўрад лічыўся б паліткарэктным.

Упершыню зьвярталася ўвага на артаграфію **о**/**ё** ў неапошняй частцы складаных словаў, аднак нейкага выразнага разьвязаньня гэтая праблема не знайшла: у «старой» лексыцы прапаноўвалася праводзіць аканьне, а «ў наватворах, у якіх адчуваюцца абедзьве складовыя часткі», пакідаць **о**/**ё** (*чырв**о**наармеец, пры**ро**дазнаўства, тр**о**хпавярховы, шт**о**дзённы, цьв**ё**рдакрылы*), інакш кажучы, вырашаць пытаньне ў слоўнікавым парадку.

Правапісны збор узбагаціўся новымі разьдзеламі, якія асобна рэгулявалі правапіс іншамоўных словаў — як агульных, так і уласных назваў. Такім чынам, у гэтым дакумэнце *ўпершыню фармуляваліся асновы беларускае практычнае транскрыпцыі*, чым ён, відаць, паслужыўся... Зводу-1959, пра што гутарка ніжэй.

Асобна трэба сказаць пра адмову ад паказу асыміляцыйнае мяккасьці (прасьцей кажучы, скасаваньне мяккага знака). Такую прапанову выказваў яшчэ ў сярэдзіне 1920-х Язэп Лёсік, абгрунтоўваючы яе тым, што беларус інакш як мякка **з**, **с**, **дз**, **ц** перад мяккімі вымавіць проста ня здолее, таму паказваньне асыміляцыйнае мяккасьці на пісьме — лішняе, збыткоўнае.

У Праекце ж гэтае рашэньне зьявілася толькі ў карэктуры — гэта значыць на мяжы 1929—1930 гг., калі пачала раскручвацца антынацдэмаўская кампанія. Дагэтуль Правапісная Камісія згадзілася на тым, што мяккі знак варта прыбраць выключна ў падоўжаных **ньн**, **льл**, **зьз**, **сьс**, **дзьдз**, **цьц** (*насе**нн**е*, *сьме**цц**е*, *су**ддз**я* або *су**дздз**я*). Скасаваць мяккі знак у іншых пазыцыях катэгарычна не згаджаўся старшыня Камісіі Некрашэвіч, які на момант рыхтаваньня дакумэнту да друку ўжо страціў свае званьні й дажываў апошнія месяцы на волі. Рашуча не прыняў скасаваньня **ь** і Купала. Ластоўскі прапанаваў фактычна вярнуцца[8] да лацінкавае дыякрытыкі (надрадковых і падрадковых знакаў), скарыстаўшы замест **ь** — акут: *з́няў*, *с́нег*, *ц́мяна*.

Правапісная Камісія спадзявалася, што плод яе нялёгкіх рашэньняў нарэшце трапіць на шырокае абмеркаваньне грамадзтва, якое ў выніку дэмакратычнае працэдуры выбера найбольш аптымальныя правілы, а сама яна прыступіцца да складаньня першага ў гісторыі беларускае мовы артаграфічнага слоўніка. Але цягам лютага-жніўня 1930-га па справе Саюзу вызваленьня Беларусі чэкісты арыштоўваюць шасьцёх з васьмі аўтараў Праекту. Пасьля «гутарак» у Дзяржпалітупраўленьні Купала рэжа сабе жылы[9].

Гэтыя падзеі паставілі крыж на Праекце-1930: як створаны «ворагамі народу», ён ужо ня меў шанцаў на апрабату ўладаў:

*Проект «Правапіснай камісіі БАН» 1930 г. («Беларускі правапіс»)... быў складзены яшчэ пры нацдэмаўскім кіраўніцтве Інстытуту мовазнаўства, і таму нацдэмаўскія ўстаноўкі выразна адбіваюцца як у самім проекце, так і ў дададных да проекту заўвагах паасобных членаў правапіснай камісіі...*[10]

[8] «Вярнуцца», бо кірылічны варыянт граматыкі Тарашкевіча — гэта ўсяго толькі трансьлітарацыя з лацінічнага.

[9] Пазьбег рэпрэсіяў толькі Анатоль Багдановіч, які прычыніўся й да стварэньня Праекту-1933, аднак у 1934-м перад пагрозаю арышту зьехаў з БССР і ніколі не вярнуўся, усё астатняе жыцьцё выкладаў расейскую мову — пераважна «нацменам», склаў падручнік расейскае мовы для адыгейскіх школаў.

[10] Прадмова да Праекту-1933. С. 4; Электронны рэсурс: http://andrejczyk.blogspot.com/2006/03/1933.html.

## Праект-1933[11]

Згортваньне нацыянальных «будоўляў» на мяжы 1920-х — 1930-х і аднаўленьне саветамі русіфікацыйнае палітыкі царызму выклікала да жыцьця новую зьяву. Ведамы ўкраінскі мовазнавец Юры Шэвэлёў выявіў наступную асаблівасьць эпохі ў прыкладаньні да ўкраінскае мовы:

*Дзяржаўнае ўмяшаньне наагул, а ў нашым выпадку з боку ўладаў, апанаваных расейцамі, у нутраныя законы мовы было савецкім вынаходзтвам і навіною. Ні палякі, ні румыны, ні чэхі ў гэта не паглыбляліся, як не паглыблялася царская адміністрацыя дарэвалюцыйнае Расеі. Яны ўсе абмяжоўваліся да захадаў вонкавага ціску: забаранялі ўжываць украінскую мову прылюдна, цалкам або часткова; накідалі дзяржаўную мову праз сыстэму асьветы; зваблівалі ўкраінцаў сваёй культураю ды магчымасьцю рабіць кар'еру; перасялялі іх на неўкраінскую тэрыторыю, а ўкраінскія землі засялялі прадстаўнікамі паноўнае нацыі і г. д. Побач з гэтымі «клясычнымі» мэтамі савецкая сыстэма ўсталёўвае кантроль над структураю ўкраінскае мовы: забараняе пэўныя словы, сынтаксічныя канструкцыі, граматычныя формы, правапісныя і артаэпічныя правілы, а замест іх накідае іншыя, бліжэйшыя да расейскіх або жыўцом перанесеныя з расейскае мовы. Барацьба адбывалася ня толькі ў людзкой псыхіцы, а і ў самой мове*[12].

Гэтае цьверджаньне будзе справядлівым у дачыненьні й мовы беларускай: у адрозьненьне ад іншых вонкавых уладаў, расейскі бальшавізм пачаў ня толькі зьнішчаць іншароднае для яго цела, але перайначваць гэтае цела сьсярэдзіны, перанёсшы поле бою ў самое нутро ворага[13].

Дарэчы, пэўнае саветызацыі не пазьбеглі й іншыя мовы, носьбіты якіх траплялі пад палітычны ўплыў саветаў. Прыкладам, у польскай мове ў 1950-я гг увялі ў якасьці афіцыйнай формы зварот на «*вы* + дзеяслоў 2 ас. мн. л.» — на ўзор расейскае мовы, замяніўшы ім традыцыйны зварот праз «*пан/пані* + дзеяслоў 3 ас. адз. л.». Гэтая форма пражыла ў Польшчы роўна столькі, колькі камуністычнае кіраваньне.

Аднак найбольшыя скажэньні зазналі ўкраінская і беларуская мовы. Пакуль у БССР ішлі арышты «нацдэмаў», Сталін у сваім выступе з трыбуны XVI зьезду Кампартыі (чэрвень-ліпень 1930 г.) даваў зразумець, што ўсьведамляе асаблівую ролю ўкраінскага і беларускага чыньнікаў у эўрапейскім геапалітычным пасьянсе:

[11] Праект спрашчэння беларускага правапісу. — Менск, 1933. — 49 с.

[12] Юрій Шевельов. Українська мова в першій половині двадцятого століття (1900—1941). Стан і статус. Чернівці, 1998. С. 17. Цытуецца паводле выданьня: Українська мова у ХХ сторіччі: історія лінгвоциду: Документи і матеріали. Київ, 2005. С. 6.

[13] Дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што ня толькі бальшавікі спрабавалі «руліць» моваю. У 1929 г. у Львове польскія ўлады выдалі беларускі «Lemantar» для патрэбаў беларускіх дзяржаўных школаў (на той момант такія ў Польшчы яшчэ былі). Заходнебеларуская грамадзкасьць сустрэла падручнік вельмі крытычна, бо матэрыял у ім выкладаўся не беларускаю, а польскаю лацініцаю. Аўтар, Станіслаў Любіч-Маеўскі тлумачыўся, што ў друк ён здаў рукапіс з прынятымі ў беларускай лацініцы літарамі **č**, **š**, **ž**, а ня з польскімі **cz**, **sz**, **ż**.
А за часоў фашысцкай акупацыі кіраўніцтва генэральнай акругі «Беларусь» не хавала свайго жаданьня, каб у беларускай мове выкарыстоўвалася лацінічнае пісьмо.

*...надо принять во внимание... одно обстоятельство, имеющее отношение к ряду наций СССР. Есть Украина в составе СССР. Но есть и другая Украина в составе других государств. Есть Белоруссия в составе СССР. Но есть и другая Белоруссия в составе других государств. Думаете ли вы, что вопрос об украинском и белорусском языках может быть разрешён вне учёта этих своеобразных условий?*[14]

Пазьней украінска-беларуская «змычка» ня раз адыграе сваю ролю ў гісторыі нашых народаў, у тым ліку — у лёсе нашых моваў.

Яшчэ не пасьпела высахнуць друкарская фарба на асобніках Праекту-1930, яшчэ бальшыня сябраў Правапіснае Камісіі БАН заставалася на свабодзе, а створаны імі дакумэнт... ужо стаўся мінуўшчынаю. Аднак патрэба ў правапісных зьменах заставалася на парадку дня. Праўда, калі Праект-1930 інсьпіраваўся людзьмі, якія рупіліся пра будучыню беларушчыны, то цяпер за справу бярэцца камуністычнае кіраўніцтва, якое скарыстоўвае інтэнцыю ператварэньняў далёка ня дзеля ўмацаваньня пазыцыяў мовы. Складаньне новага праекту даручаецца акадэмічнаму Інстытуту мовазнаўства, калектыў якога ўжо 8 сакавіка 1930-га зьбіраецца на сваё першае паседжаньне ў гэтай справе. У жніўні арыштоўваюць, але неўзабаве вызваляюць Пятра Бузука (магчыма, паўплывала ягонае небеларускае паходжаньне — арышт украінца з Бэсарабіі за беларускі нацыянал-дэмакратызм мог бы выглядаць непераканаўчым) і ў 1931 г. яму давяраюць ачоліць Інстытут.

*Як вядома, бальшавікі пасьля ліквідацыі нацдэмаў сталі рыхтавацца да рэформы беларускага правапісу й тэрміналёгіі. Восеньню 1932 году сталі ўкладаць праект. Прафэсар Бузук быў кіраўніком Катэдры беларускай мовы ў Беларускай Акадэміі Навук. Напэўна, на яго налягалі камуністыя, каб ён прыняў удзел у рэформе, але прафэсар Бузук быў праціўнікам рэформы*[15]*. Аднаго разу спачатку навучальнага году ён склікаў сход студэнтаў-лінгвістаў усіх курсаў, дзе абгаворваліся тыя словы, што меліся быць зьмененыя. Ён пытаўся ў студэнтаў розных акругаў, як у іх вёсках вымаўляецца тое ці іншае слова. Бальшыня студэнтаў выказвалася, што гэтыя словы ў вёсках на мясцох вымаўляюцца так, як яны пісаліся пры нацдэмах. У гэткім духу й была напісана па гэтым пытаньні рэзалюцыя. Я ня ведаю, ці звальняўся праф. Бузук пры арышце першай групы нацдэмаў, але памятаю, што на яго былі вялікія нападкі ў друку як за працы ў беларускім мовазнаўстве, гэдак і за тое, што ён залічаў Кубаншчыну да ўкраінскага народу. А гэтыя ягоныя «грахі» былі выкрыты надта несумленным парадкам*[16].

Пачатак 1933-га. Ідзе вынішчэньне «кулачча»[17], на Ўкраіне і Беларускім Палесьсі лютуе галадамор, нацыянальная эліта ўжо адбывае тэрміны ў ГУЛАГу або ў высыл-

[14] И. В. Сталин. Заключительное слово по политическому отчёту ЦК XVI съезду ВКП(б) 2 июля 1930 г. // Правда. 1930. № 181. 3 июля; Сочинения. Москва, 1952. Т. 13. С. 7.

[15] Істотна, што Бузук не зьмясьціў у Праекце-1930 свайго асобнага меркаваньня ні па якім правіле, таму можна дапусьціць, што ён і сапраўды хацеў захаваць Тарашкевічаў правапіс.

[16] Язэп Гладкі. Чутае — пераЖытае — бачанае. Машынапіс. Архіў БІНІМу.

[17] Зьвяртае на сябе ўвагу факт наяўнасьці гэтага, лагодна кажучы, спэцыфічнага слова ў сьвежавыдадзеных акадэмічных слоўніках, нягледзячы на тое, што патрэба гэтага гістарызма ў сучаснай лексыцы — зьнікомая.

цы, а газэты надалей поўняцца закідамі на адрас «беларускіх нацдэмаў і нацыяналфашыстаў, якія імкнуліся пабудаваць штучны бар’ер паміж культурамі братніх савецкіх рэспублік РСФСР і БССР». У такой атмасфэры новы праект мусіць — у адрозьненьне ад свайго «папярэдніка»-1930 — ужо належным чынам «адгукацца на патрабаваньні часу» і адпавядаць цэламу шэрагу супярэчлівых адно аднаму, узаемавыключных, не заўсёды выканальных (або наагул невыканальных) патрабаваньняў:

1. У сьвятле «барацьбы з нацдэмаўшчынай» — дыстанцыявацца ад прынцыпаў і даробку «нацдэмаў», што азначала найперш адмову ад зьменаў, прапанаваных Праектам-1930, а на роўні прынцыпаў — ад пурызму.
2. Як новы праект, рэфармацыйны — істотна адрозьнівацца ад тарашкевіцы[18].
3. Адгукаючыся на патрэбу пашырэньня пісьменнасьці — быць істотна прасьцейшым за тарашкевіцу, што на практыцы магло спрыяць або фанэтызацыі («як чуецца — так і пішацца»), або русіфікацыі (стаць наборам мэханічных адпаведнасьцяў расейскаму пісьму ці наўпрост адлюстроўваць расейскія напісаньні).
4. Ухіляючыся ад «вялікадзяржаўніцкіх тэндэнцый, якія выяўляліся ў імкненьні даныя факты замежных слоў перадаваць абавязкова ў рускім вымаўленьні (*лампа*, *сацыалогія*, *арыхмеціка*, *фанэціка*)» (с. 8) — захоўваць традыцыйнае, уласьцівае тарашкевіцы афармленьне, не дапускаючы расейскага ўплыву.
5. Улічваючы патрабаваньне зьбліжацца з мовамі іных народаў СССР — наўпростavы загад масава ўводзіць саветызмы (найперш русізмы й расейскія наватворы з савецкага навамоўя, а таксама «ідэалягічна правільныя» інтэрнацыяналізмы), што адчувальна ўплывала на аблічча мовы, на яе графічны бок.
6. У выпадках значнай дыялектнай разьбежнасьці пэўных фанэтычных зьяваў — улічваць іх лінгвагеаграфію, выбіраючы найбольш пашыраныя.
7. «Чуйна прыслухаючыся да народнае мовы, да мовы гарадзкога і сельскага пралетарыяту, беднякоў і сераднякоў, а не кулацтва, шляхты й мяшчанства» — прасяваць моўны матэрыял праз сіта палітычных меркаваньняў.
8. Беручы пад увагу пэрспэктыву аб’яднаньня беларускіх этнічных тэрыторыяў («далейшае разьвіцьцё сусьветнае рэвалюцыі») — не абмінаць моўных праяваў з Заходняе Беларусі, найперш дыялектных.

Ня дзіва, што ў выніку *Праект-1933 аказаўся надзвычай супярэчлівым і разнавэктарным*: яго ніяк не выпадае назваць *ні выразна русіфікатарскім, ні пурыстычным, ні самастойным*. У галіне правапісу ўласнабеларускіх словаў дакумэнт прапаноўваў *глыбокую рэвізію ранейшае практыкі*, у афармленьні іншамоўнае лексыкі — захоўваў тарашкевіцкую аснову і амаль паўтараў Праект-1930, нягледзячы на абвешчаную яго стваральнікамі вайну «нацдэмаўскім устаноўкам» (гл. табліцу).

[18] Праўда, не было мэты дэманстратыўна адмаўляцца ад зробленага Тарашкевічам: у часе стварэньня Праекту Тарашкевіч, яшчэ ў 1928-м завочна абраны акадэмікам Беларускай Акадэміі Навук за напісаньне «Граматыкі», — у польскай турме, «вязень польскага фашызму». У 1933-м яго (як камуністычнага дзеяча) саветы выменьваюць у палякаў на беларускага драматурга Францішка Аляхновіча (як польскага шпіёна), аднак ні жыць у БССР, ні займацца мовазнаўствам не дазваляюць, адправіўшы ў Маскву.

## ПРАПАНОВЫ ПРАЕКТУ-1933

| Прапанова | Прыклады | Адпаведнасьць маніфэставаным задачам |
|---|---|---|
| Скасаваньне мяккага знака | *зняць*, *свет*, *цвісці* | Спрыяла русіфікацыі пісьма, яго дэфанэтызацыі. Сьледаваньне Праекту-1930 |
| Замена разьдзяляльнага **ь** на апостраф пасьля мяккіх зычных | было: *з**ь**ява*, *раз**ь**юшаны*<br>прапанова: *з**’**ява*, *раз**’**юшаны* | |
| Сьцягненае напісаньне падоўжаных **ньн**, **льл**, **зьз**, **сьс**, **дзьдз**, **цьц**, **жж**, **шш**, **чч** — **н**, **л**, **з**, **с**, **дз**, **ц**, **ж**, **ш**, а таксама ў лічэбніках **цц** — **ц** | *насе**н**е*, *га**л**ё*, ***з**яе*, *ры**з**ё*, *калосе*, *су**дз**я*, *жы**ц**ё*, *зб**о**жа*, *заці**ш**а*, *но**ч**у*; *адзіна**ц**аць*, *тры**ц**аць* | Рэзка супрацьставіла дакумэнт і тарашкевіцы, і Праекту-1930, набліжаючы адпаведныя словы да польскай мовы. Мела сьведчыць пра ўлік дыялектных фактаў з усёй беларускай этнічнай тэрыторыі[19] |
| Адсутнасьць скарачэньня **у-**, **і-** ды словаў **у**, **і** пасьля галосных | *лепшы **у**дарнік*, *тэмпы **і** якасьць* | Дэфанэтызацыя пісьма. Прапанова аднаго з галоўных «нацдэмаў» — Я. Лёсіка[20] |
| Адмова ад яканьня ў 2-м пераднаціскным складзе | было: *н**я**высокі*, *б**я**спрытульны*<br>прапанова: *н**е**высокі*, *б**е**спрытульны* | Сьледам за Праектам-1930, спрыяла спрашчэньню |
| Падпарадкаваньне лічэбнікаў яканьню | *дз**я**вяты*, *дз**я**сяты*, *пяцьдз**я**сят* | У адпаведнасьці з Праектам-1930 |
| Афармленьне фіналяў **-дзк-**, **-дзтв-** праз **-дск-**, **-дств-** | *грама**дск**і*, *cусе**дств**а* | Як у расейскай мове — насуперак польскай |
| Правядзеньне аканьня ў пазычаньнях (толькі ў дачыненьні **о** ў сярэдзіне слова); літара **ё** ўва ўсіх пазыцыях і канцавое **-о** застаюцца нязьменнымі | *м**а**н**а**лёг*, *к**аа**пэрацыя*, *ф**а**нэтыка*, ***А**рджанікідзэ*, ***А**фэнбах*; але *нэт**о***, *інкогніт**о***, *сол**ё***, *Л**ё**карн**о*** | Ва ўмовах панаваньня расейскае мовы спрыяла фанэтызацыі й пэўнаму спрашчэньню пісьма[21]. Прапанова аднаго з галоўных «нацдэмаў» — С. Некрашэвіча[22] |
| Перадаваньне грэцкага **th** або праз **ф**, або праз **т** — у залежнасьці ад падаваньня ў расейскай мове | было: *мі**т***, *ары**т**мэтыка*<br>прапанова: *мі**ф***, *ары**ф**мэтыка* | Замацаваньне расейскае мовы як пасярэдніка для пазычаньняў з трэціх моваў |
| Увядзеньне асобных літараў для гукаў [**дз**], [**дж**] | Канкрэтных прапановаў адносна канфігурацыі літараў у Праекце не было[23] | Адпавядала пурызму й фанэтызацыі. Пярэчыла русіфікацыі, «пераадоленьню нацдэмакратызма»[24] |
| Дапускаецца ўжываньне дзеепрыметнікаў на **-учы**/**-ючы**, **-ачы**/**-ячы**; **-омы**/**-емы**, **-імы**/**-ымы** | *раша**ючы***, *заверша**ючы***, *меншавіцтву**ючы***; *эксплёату**емы***, *нецярп**імы*** | Уводзяцца неўласьцівыя беларускай мове формы — на ўзор расейскай |

[19] «Прапанова замяніць напісаньне падвойных літар... аднэй літарай... павінна дапамагаць спрашчэньню правапісу, паколькі з розных варыянтаў у гаворках выбіраецца больш простая форма. Улічыў тут проект і асаблівую пашыраннасьць форм без падваеньня ў гаворках Заходн. Беларусі» (Праект-1933. С. 6—7).

[20] Язэп Лёсік. Да рэформы беларускага правапісу (у суаўтарстве з Антонам Лёсікам); цытуецца паводле: Язэп Лёсік. 1921—1930: Збор твораў. Мн., 2003. С. 212—216.

[21] «Улічваючы дыялектычны процэс асваеньня шырокімі працоўнымі масамі замежных слоў, як адзін з

## ПРАПАНОВЫ, ДАДАДЗЕНЫЯ ПА ВЫНІКАХ АБМЕРКАВАНЬНЯ (улучаныя ў выданьне Праекту-1933)

| | | |
|---|---|---|
| Марфалягічнае напісаньне спалучэньняў «зычны + **-ск-**» | было: *пары**ск**і*, *каўка**ск**і* прапанова: *пары**жск**і*, *каўка**ск**і* | Адпавядае расейскаму напісаньню |
| Увядзеньне **-й** на канцы дзеепрыметнікаў | *існуючы**й***, *пануючы**й***, *існаваўшы**й***, *панаваўшы**й*** | Уводзілася расейскае напісаньне — насуперак беларускай фанэтыцы; разбурала адзінства афармленьня прыметнікавых словаў |
| Дапушчэньне канчатка **-ей** для назоўнікаў 3-га скланеньня | *арцел**ей***, *сенажац**ей***, *плын**ей***, *дробяз**ей***, *далон**ей*** | Тоеснае расейскаму словазьмяненьню |

Не міне й паўгоду з моманту заканчэньня Інстытутам свае працы, як ракавыя падзеі лета 1933-га зьмятуць Праект у нябыт...

*(Працяг будзе.)*

*Аўтар шчыра дзякуе за дапамогу Цэзарыю Галіньскаму.*

этапаў стварэньня будучай інтэрнацыянальнай мовы, проект прапануе падпарадкаваць чужаземныя словы правілам аб аканьні..., бо сапраўды, хіба можна сёньня лічыць замежнымі такія словы, як *комуна*, *соцыялізм*, а тым больш такія скрыжаваныя словы як *колгас*, *колгасьнік*»(Праект-1933. С. 7).

[22] Сьцяпан Некрашэвіч. Да пытаньня пашырэньня аканьня на чужаземныя словы // Полымя. 1926. №5. С. 123—130; Выбраныя навуковыя працы акадэміка С. М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэньня. Мн.: Беларуская навука, 2004. С. 23—32.

[23] У Праекце выказвалася пажаданьне, каб новыя літары «не супярэчылі-б агульнаму стылю ўсёй беларускай азбукі і па сваёй композыцыі станавілі-б лігатуры тых літар, якімі абазначаюцца складаныя элемэнты зазначаных афрыкат» (С. 9).

[24] Гэтае пытаньне публічна дыскутавалася ўжо з 1922 году, а ў 1929-м адбыўся першы прэцэдэнт выкарыстаньня новых літараў на бачынах «нацдэмаўскага» часопісу «Ўзвышша». Сярод прыхільнікаў увядзеньня манаграфаў былі «нацдэмы» Язэп Лёсік, Уладзімер Дубоўка, а таксама Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва (падрабязьней гл.: Зьміцер Саўка. Моваведная канфэрэнцыя 1942 году // Запісы БІНІМ. 2005. 28. С. 238).

⌘ АНАЛІТЫКА

ЗЬМІЦЕР САЎКА

# Мазаічная артаграфія

## З нагоды прыняцьця Правапіснага закону-2008

Працяг. Пачатак у № 11 за г. г.

## 2. МЭХАНІКА ЗЬНЯВЕЧАНЬНЯ

Моўная рэформа 1933 г. ужо даволі падрабязна аналізавалася ў мовазнаўчым і палітычным аспэктах. Аднак у бальшыні прысьвечаных гэтай тэме працаў рэформа разглядалася як носьбіт нейкага самастойнага значэньня. Ведама ж, Пастанова, Дадаткі і Правілы-1934[1] , якімі ўводзілася рэформа, сталіся «сакрушальнымі пралетарскімі ўдарамі па нацдэмаўшчыне» (г. зн. па беларушчыне) і сапраўды занялі — у выніку — выключнае месца ў гісторыі нашае мовы. Але адбылося гэта значна пазьней — калі не пасьледавала наступных, яшчэ больш «рашучых крокаў», ня зьдзейсьніліся далейшыя пункты *пляну*. Рэальнае ж месца, якое рэформа займала ў лягічных пабудовах яе ідэйных натхняльнікаў, у сыстэме ўяўленьняў яе рэалізатараў, у падзейнай карціне, успрыманай сучасьнікамі яе правядзеньня, — было даволі сьціплае. А паспрабуйма паглядзець на рэформу ня як на сонца, вакол якога круціліся тагачасныя падзеі, а як дробны мэтэарыт у цэлай плянэтарнай сыстэме, разбуральнае ўзьдзеяньне якога мела згубіцца на тле рыхтаванае катастрофы.

### Падмена дактрыны

У папярэдняй публікацыі гэтага цыклю мы адзначалі, што бальшавізм — у адрозьненьне ад іншых палітычных сілаў — выступаў як актыўны суб’ект моўных працэсаў, умешваючыся ў самое цела моваў, якія апынуліся ў яго арбіце.

---

***Зьміцер Саўка*** *— мовазнавец, адзін з аўтараў выданьня «Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя» (Вільня—Менск, 2005).*

Асабліва паказальны ўплыў палітычнае каньюнктуры на мовы «адсталых народаў» СССР. Як вядома, паводле камуністычнае дактрыны, усе мовы ў будучыні мусілі зьліцца ў адну, аднак адбыцца гэта павінна было «натуральным шляхам», што рабілася магчымым толькі тады, калі ўсе мовы дасягнуць прыблізна аднаго й таго ж роўню разьвіцьця. Таму аўтсайдэраў нацыятворчых працэсаў у 1920-я гг. «падцягвалі» да моваў больш разьвітых нацыяў (у лік апошніх траплялі й беларусы): для тых моваў, што ня мелі пісьмовасьці, яе стваралі; тыя, што мелі сваю пісьмовасьць — найперш на аснове арабікі, — пераводзіліся на больш пэрспэктыўную лацініцу.

*Созданием графики для языков 106 этносов СССР занимались ученые Москвы (Институт языка и мышления, Институт востоковедения, Коммунистический университет трудящихся Востока), лингвисты Ленинграда (Институт живых восточных языков)*[2].

Па дарозе адзначым, што на Акадэмічнай канфэрэнцыі 1926 г. цалкам сур’ёзна разглядалася магчымасьць пераводу на лацініцу й беларускае мовы[3]; такая ж прапанова, толькі ў дачыненьні ўкраінскае мовы, сабрала шмат прыхільнікаў на тыпалягічна падобнай канфэрэнцыі 1927 г., прысьвечанай украінскаму правапісу[4].

Наагул, маштаб нацыянальна-моўных зрухаў міжваеннага часу ўражвае ня менш за грамадзка-палітычныя ды эканамічныя ператварэньні: прыкладам, сьвежаакупаваны (цягам другое паловы XIX ст.) Туркестан, зь пярэстамоўным цюрскім вясковым насельніцтвам і таджыцкамоўным гарадзкім, саветы падзялілі на нацыянальныя рэспублікі, фактычна навязаўшы нацыятворчыя працэсы, змусіўшы мясцовае жыхарства да нацыянальнае ідэнтыфікацыі, да чаго тыя аб’ектыўна не былі гатовыя, інсьпіраваўшы разьвіцьцё некаторых мясцовых цюрскіх гаворак да паўнавартасных літаратурных моваў.

З прыходам Сталіна да абсалютнае ўлады (т. зв. «круты паварот»[5], большасьць гісторыкаў згаджаецца на тым, што адбылося гэта ў 1929 г.) практыка «моўнага будаўніцтва» рэзка мяняецца: замест таго, каб спрыяць «дарастаньню» размаі-

[1] Правапіс беларускай мовы / Адк. рэд. Андрэй Александровіч. — Менск, 1934.

[2] В. Г. Чеботарева. Сталин и партийно-советские национальные кадры // Вопросы истории. 2008. № 7. С. 3—25. С. 22.

[3] Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістапада 1926 г.). — Менск, 1927. С. 176. Прыхільнікам увядзеньня лацінкі быў, прыкладам, Зьміцер Жылуновіч (Тамсама. С. 168).

[4] Андрій Хвиля. Викореніти, знищити націоналістичне коріння на мовному фронті // Більшовик України. 1933. № 7—8. С. 42—56. Цытуецца паводле выд.: Українська мова у XX сторіччі: історія лінгвоциду: Документи і матеріали. — Київ, 2005. С. 122.

[5] Тэрмін паводле выд.: На крутым павароце: Ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў 1929—1931 гг.: Дакументы, матэрыялы, аналіз. — Мінск: БелНДІДАС, 1999.

тай, а да таго ж і колькасна невырашальнай[6] групы «нацменаў» да роўню «перадавікоў», савецкая ўлада зьвяртаецца да больш надзейнага спосабу ўнітарызацыі — да спадчыны «праклятага царскага рэжыму» — безагляднага русіфікатарства. Не пасьпелі ўзбэкі й ненцы толкам вывучыць лацінскія літары — ляціць з Масквы новая дырэктыва... Да 1940 г. **усе** *мовы народаў СССР* былі пераведзеныя на кірыліцу. Тэарэтычная база пад русіфікацыйную практыку падцягнулася значна пазьней. Толькі ў 1949-м Сталін выступае з мадыфікаванаю дактрынаю: зьліваццa будуць ня ўсе мовы адначасова (што цьвердзілася раней), а спачатку будуць вылучацца «занальныя мовы» — *рэгіянальныя лідэры* такога зьліцьця, у якія й зьліюцца астатнія мовы рэгіёну:

*...первоначально будет создан не один общий для всех наций мировой экономический центр с одним общим языком, а несколько зональных экономических центров для отдельных групп наций с отдельным общим языком для каждой группы наций, и только впоследствии эти центры объединятся в один общий мировой центр социалистического хозяйства с одним общим для всех наций языком*[7].

Якая менавіта мова ў СССР мелася выступіць у ролі «занальнай», ні ў кога сумневаў не ўзьнікала.

Трэба адзначыць, у кола моваў народаў СССР не траплялі мовы нацыянальных меншасьцяў, чые мэтраполіі заставаліся за заходнімі межамі Саюзу. Гэта й зразумела, бо пакуль што для «заходніх» моваў прызначалася іншая, адметная роля — заставацца мовамі савецкае прапаганды, «палымянага слова праўды». І пакуль ненцы з азэрбайджанцамі вучыліся кірыліцы, у Менску пэрыядычныя выданьні на польскай і летувіскай мовах[8] па-ранейшаму выходзілі лацініцаю[9]. У 1940-м патрэбы «забясьпечыць» заходні вэктар савецкай палітыкі выратуюць мову беларускую...

[6] Абодва міжваенныя перапісы насельніцтва СССР, 1926 і 1939 гг., зафіксавалі той самы адсотак «нацменаў» (усе народы, апроч усходнеславянскіх) — 22 %; дарэчы, расейцаў цягам 13 гадоў стала істотна больш — з 51 да 58,5 %, украінцаў — значна менш — з 21 да 16,5 %, доля беларусаў засталася нязьменнаю — 3 % (Всесоюзная перепись населения 1926 года. — Москва, 1928; Всесоюзная перепись населения 1939 года: Основные итоги. — Москва, 1992).

[7] И. В. Сталин. Национальный вопрос и ленинизм // Сочинения. Т. 11. — Москва, 1949. С. 333—355, 348.

[8] Па-польску — пяць газэтаў, па-летувіску — адна.

[9] Асобная гісторыя датычыць так званае малдаўскае мовы. Яе ўтварылі разам з Малдаўскаю Аўтаномнаю Сацыялістычнаю Рэспублікаю ў складзе УССР у 1924 г. (Прыднястроўе разам з прылеглымі раёнамі Ўкраіны). Для таго, каб адрозьніваць яе ад румынскай, дыялектам якой яна ёсьць, усталявалі для яе пісьмовасьць кірыліцаю. Паказальна, што карэльскую мову, зыходна кірылаграфічную, у 1931 г. лацінізавалі, а ў 1937 г. зноў кірылізавалі.

## Украінскі сьлед

Як ня першы раз у гісторыі дэкаратыўнай БССР, тагачасныя нутраныя падзеі ў рэспубліцы аказваліся ўсяго толькі *адбіцьцём*, *хвалямі на вадзе*, якія выклікаліся вонкавымі чыньнікамі.

У суседняй Украінскай ССР на тле грандыёзнае антысялянскае кампаніі (пад кіраўніцтвам адмыслова прысланага з Масквы ў студзені 1933-га Паўла Постышава) працягваецца *паляваньне на нацыяналістаў* — вынішчэньне ўкраінскай эліты. У лютым 1933 г. адхіляюць з пасады народнага камісара асьветы Міколу Скрыпніка, цэнтральную постаць, галоўны «лякаматыў» працэсу ўкраінізацыі. З гэтага моманту ўсё, да чаго прыклаў палец «вораг народу», ператвараецца ў шкоднае й шкодніцкае, у тым ліку скрыпнікаўскі правапіс, дзясяткі выдадзеных гэтым правапісам слоўнікаў і падручнікаў, а разам зь імі — увесь даробак украінскае лінгвістыкі 1920-х гг.

Прыняты ў 1928 г., скрыпнікаўскі, або харкаўскі (паводле тагачаснае сталіцы УССР — Харкава)[10], правапіс грунтаваўся на рашэньнях аўтарытэтнае Правапіснае канфэрэнцыі 1927 г. і меў вельмі істотную адметнасьць: спалучаў дзьве правапісныя традыцыі — усходне- й заходнеўкраінскую, якія складаліся самастойна ў дзьвюх частках украінскае этнаграфічнае тэрыторыі — у Расейскай Імпэрыі ды ў Аўстра-Вугоршчыне. Харкаўскі правапіс замацаваў пэўныя рысы заходнеўкраінскага стандарту ў якасьці агульнаўкраінскіх; прынамсі ў гэтай частцы зробленае ўкраінскімі кадыфікатарамі ніяк не разыходзілася з тагачасным запаветам кампартыі зважаць на сваіх суродзічаў за мяжою, улічваючы «праявы мовы заходнеўкраінскага пралетарыяту й працоўнага сялянства». (Такі ж запавет, дарэчы, атрымалі й беларускія мовазнаўцы пры складаньні Праекту-1933; праўда, намаганьні гэтыя зьвяліся па сутнасьці да прапановы скасаваць падаўжэньне мяккіх зычных у становішчы між галоснымі: *жада**не*** замест *жада**ньне***, *зе**ле*** замест *зе**льле***[11].)

Вывядзеньне з гульні Міколы Скрыпніка азначала адхіленьне ад працы (а часта й арышт з прадказальнымі наступствамі) цэлых навуковых калектываў. Для выкананьня новых задачаў былі патрэбныя сьвежыя, «незаплямленыя» кадры. І такі кадар знайшоўся ў асобе Андрыя Хвылі (сапр. Олінтэр) — 35-гадовага загадчыка аддзелу агітацыі ды прапаганды ЦК КП(б)У, які пасьля адхіленьня Скрыпніка заняў пасаду намесьніка наркамісара асьветы. Ён выступіў галоўным выкрывальнікам і шкоднікаў на мовазнаўчым фронце, і «скрыпныкаўкі», а таксама рупарам артаграфічных (і ня толькі артаграфічных) навацыяў, ачоліўшы створаную на загад народнага камісара асьветы 6 красавіка 1933 г. Правапісную

[10] Таксама часам называецца правапісам Галаскевіча — паводле прозьвішча аўтара (Григорій Голоскевич) аўтарытэтнага артаграфічнага даведніка «Український словник» (40 тыс. словаў), якім украінская дыяспара карыстаецца й сёньня (Історія українського правопису, XVI—XX століття: Хрестоматія. — Київ, 2004. С. 269—270).

[11] Падрабязьней пра гэта гл. першую частку публікацыі.

**Агульныя рысы зьменаў ва ўкраінскім і беларускім правапісах 1933 г.**

| Моўныя (фанэтычныя й граматычныя) рысы | Да рэформы 1933 г. | | Пасьля рэформы 1933 г. | | Расейская мова |
|---|---|---|---|---|---|
| | Укр. мова | Бел. мова | Укр. мова | Бел. мова | |
| Мяккасьць **L** у пазычаньнях | + | + | – | – | – |
| Перадаваньне грэцкага **th** як **т** | + | + | – | – | – |
| Ужываньне літары **ґ**, «разьвядзеньне» іншамоўных **g** і **h** | + | +/–* | – | – | – |
| Пасьлядоўнае перадаваньне дыфтангічнага **u** ў пазычаньнях | + | + | – | – | – |
| Выкарыстаньне дзеепрыметнікаў незал. стану і цяпер. часу (напр. *пануючы клас*) | – | – | + | + | + |
| Перавага канчатка **-а**/**-я** ў форме Р. скл. адз. л. назоўнікаў м. р. | – | – | + | + | + |

* Ува ўсіх першых беларускіх кадыфікацыйных дакумэнтах, у т. л. у граматыцы Тарашкевіча, выбухны й фрыкатыўны **g** і **h** ня зьмешваліся, перадаючыся адпаведна літарамі **ґ** («ґе») і **г** («гэ»), пра што нагадваў і С. Некрашэвіч (Працы... С. 144). Аднак у практыцы літара **ґ** выкарыстоўвалася рэдка.

камісію — «для праверкі работы на моўным фронце»[12]. Правапісу 1928 г. закідаўся «***штучны адрыў украінскае мовы*** *ад тае мовы, якою гавораць шматмільённыя масы ўкраінскіх работнікаў і сялянаў, ...* ***ад мовы расейскае***»[13] (тут і далей вылучана намі. — *З. С.*). Гэтыя закіды з пачатку 1930-х робяцца ляйтматывам усіх выкрывальніцкіх выступаў на адрас шкоднікаў на як украінскім, так і беларускім мовазнаўчых франтох.

Можна прыпусьціць, што разгром практыкаваных у беларускай і ўкраінскай мовах артаграфічных стандартаў уяўляўся саветам больш актуальным ва Ўкраіне, дзе барацьба зь сялянствам як галоўнаю перашкодаю эканамічнага падпарадкаваньня «ўсесаюзнае жытніцы» — Украінскага Чарназем'я — экстрапалявалася на інтэлектуалаў-украінізатараў. Таму й працэс «пераадоленьня нацыяналістычнага шкодніцтва» ў моўнай сфэры пачаўся раней у УССР. Не мінула пяцёх месяцаў з пачатку працы Хвылевае камісіі ды двох месяцаў з дня самагубства Скрыпніка (7 ліпеня) — 5 верасьня быў зацьверджаны новы артаграфічны збор.

[12] Український правопис. — Харків, 1933. С. 3.
[13] Тамсама.

І хоць украінскія таварышы пачалі нявечыць сваю мову раней, аднак іхным беларускім паплечнікам удалося іх перагнаць.

## Палітычная камісія

Нагадаем. На пачатку 1933 г. (26 студзеня) Інстытут мовазнаўства правёў апошняе працоўнае паседжаньне ў справе складаньня праекту зьменаў у беларускім правапісе, і неўзабаве на стол кіраўнічым органам БССР лёг чарговы дакумэнт, «ачышчаны ад нацдэмаўскіх плыняў», якія інкрымінаваліся Праекту-1930. Аднак нягледзячы на заўважны русіфікатарскі ўхіл дакумэнту, **Масква застаецца незадаволеная**: кардынальнага набліжэньня да расейскага правапісу, дастаткова ясных праяваў зьліцьця беларускае мовы з *занальным лідэрам* у ім не прадугледжвалася, Праект-1933 аказаўся занадта памяркоўны. Бальшавіцкае кіраўніцтва БССР пераконваецца, што **давяраць рэформу правапісу мовазнаўцам нельга**, і бярэцца за справу самое.

Старт новаму этапу барацьбы зь беларускім нацыяналізмам дае артыкул у газэце «Правда» (3 лютага, № 33) зь бязьлітаснаю, як прысуд, назваю — «Под фальшиво-национальным флагом».

Як вядома, за саветамі артыкулы ў пэрыёдыцы, — а тым больш за часоў сталінскіх у галоўнай газэце СССР, «Правде», — былі, нароўні зь іншымі вагарамі сыстэмы, паўнавартаснымі інструмэнтамі кіраваньня краінаю. Праз артыкулы ў «Правде» ўлада абвяшчала сваю волю, кідала людзкія масы пракладаць турксібы ды ўзьнімаць цаліну, паказвала ня толькі на новыя мэты, але й на тых, хто замінаў гэтых мэтаў дасягнуць. Цытата з «Правды» для савецкага грамадзяніна мусіла быць нават нечым большым, чымся цытата зь Бібліі для шчырага хрысьціяніна.

Спэцыяльны карэспандэнт выданьня А. Давідзюк паведамляе зь Менску:

*Речь идет об активизации буржуазных националистов в Белоруссии, о политической сущности их выступлений, отражающих сопротивление мероприятиям пролетарского государства со стороны гибнущего кулачества.*

Як і ва Ўкраіне, супраціў калектывізацыі ў БССР таксама разглядаўся як вынік дзейнасьці нацдэмаў.

Праект-1933 ужо пасьпешліва разглядаюць і абмяркоўваюць у Наркамаце асьветы пад кіраўніцтвам новапрызначанага[14] народнага камісара, 33-гадовага Аляксандра Чарнушэвіча, у Пэдагагічным інстытуце, у розных савецкіх і партыйных арганізацыях, у выніку чаго да дакумэнту дадаюцца выразна русіфікацыйныя прапановы, што мела сьведчыць пра ляяльнасьць, «правільную ідэалягічную

[14] Замест рэпрэсаванага Антона Платуна.

арыентацыю» і стваральнікаў, і абмеркавальнікаў Праекту. Але ўсе гэтыя захады не ратуюць дакумэнту — і яго цалкам перапрацоўваюць.

Яшчэ больш рашучасьці беларускім камуністам у барацьбе з нацдэмамі, відаць, дадаў прыклад украінскі, — стараючыся дагнаць і перагнаць украінскіх партайгеносэн і чым хутчэй дакласьці наверх пра выкананьне[15], 5 траўня ЦК КП(б)Б стварае «Палітычную *(куды красамоўней!)* камісію для перагляду руска-беларускага слоўніка[16] і новых правілаў правапісу беларускай мовы»[17] — сапраўды палітычнаю, ня толькі з тае прычыны, што мела палітычныя заданьні, але й таму, што ў яе ўвайшлі переважна палітыкі:

*Мікалай Галадзед* — старшыня СНК БССР, «гападарчы» кіраўнік рэспублікі[18];
*Аляксандар Чарвякоў* — членец ЦВК БССР, адзін з кіраўнікоў рэспублікі;
*Васіль Шаранговіч* — 2-гі сакратар ЦК КП(б)Б;
*Аляксандар Чарнушэвіч* — народны камісар асьветы БССР;
*Тамаш Домбаль* — віцэ-прэзыдэнт БАН, эканаміст, з паходжаньня — галіцкі паляк;
а таксама адзін прадстаўнік *творчай інтэлігенцыі*:
*Андрэй Александровіч* — дзіцячы пісьменьнік, крытык, членец ЦВК БССР.

Паказальна, што **ў склад камісіі не ўвайшоў ніводзін лінгвіст**. Істотна таксама, што двое сяброў камісіі — Чарвякоў[19] і Чарнушэвіч — нядаўна траплялі пад агонь жорсткае крытыкі «таварышаў па партыі» й цяпер мусілі прадэманстраваць сваё жаданьне «выправіць дапушчаныя памылкі».

Ужо да 21 ліпеня камісія, відаць, скончыла сваю працу — прынамсі ў агульных рысах — і Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе: *«Згадзіцца з прапановай т. Чарнушэвіча аб перасылцы проэктаў новага беларускага правапісу на разгляд культпропа ЦК УсеКП(б)»*[20]. 26 жніўня дакумэнт зацьвярджаецца пастановаю Саўнаркаму БССР, а 27 — рашэньнем беларускага ЦК. Менскія камісары перагналі кіеўскіх на дзесяць дзён.

[15] Кшталт «сацыялістычнага спаборніцтва», якое ахапляла тады ўсе «галіны народнай гаспадаркі», нават структурныя адзінкі ОГПУ-НКВД, якія спаборнічалі ў колькасьці выкрытых і пакараных ворагаў.

[16] Паралельна з «выпраўленьнем» артаграфіі ўлады вялі барацьбу з праявамі нацдэмаўшчыны і ў лексыкаграфічнай сфэры, за асабліва шкодныя прызнаваліся працы Сьцяпана Некрашэвіча й Міколы Байкова — «Беларуска-расійскі слоўнік» 1926/1927 гг. і «Расійска-беларускі слоўнік» 1928 г. (Падрабязьней пра гэта гл.: С. М. Запрудскі. Да перадгісторыі «Руска-беларускага слоўніка» пад рэдакцыяй А. Александровіча // Vocabulum et vocabularium: Сб. научн. трудов по лексикографии. Вып. 5. — Гродно: ГрГУ, 1998. С. 110—114, 110).

[17] Гісторыя беларускага мовазнаўства, 1918—1941: Хрэстаматыя для студэнтаў філалагічнага факультэта. Ч. 1—2. — Мінск: БДУ, 2005—2008. Ч. 2. 2008. С. 156. Праўда, у пазьнейшых партыйных дакумэнтах гэтая група завецца «комиссия Бюро ЦК КП(б)Б по вопросу спрощения белорусского правописания» (Тамсама. С. 157, 164, 165, 167).

[18] Адпавядала пасадзе прэм'ер-міністра; «партыйным» кіраўніком быў М. Гікала.

[19] Зьнішчальнай крытыцы падлёг Чарвякоў у 1931 г., ледзьве ўратаваўшыся ад рэпрэсіяў (гл. напр.: XIII зьезд Комуністычнай партыі (б) Беларусі: Стэнагр. справаздача. — Менск, 1931. С. 204—205).

[20] Гісторыя беларускага мовазнаўства... С. 168.

Лішне казаць, што вынікі дзейнасьці ні камісіі Хвылі (УССР), ні Палітычнае камісіі (БССР) папярэдне не абмяркоўваліся грамадзтвам, не публікаваліся ў якасьці праектаў, а прымаліся як загад — наўпрост да выкананьня.

## У імя спрашчэньня

Пастанова мела паказальную назву — «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу».

Усе праекты зьменаў беларускай артаграфіі, створаныя пры саветах пасьля 1929 г.[21], у якасьці прычыны зьмяніць правілы маніфэставалі патрэбу спрасьціць правапіс. Але ж любому беларускамоўнаму чалавеку, знаёмаму з расейскаю, польскаю ці, прыкладам, чэскаю, ангельскаю, францускаю артаграфічнымі сыстэмамі, — відавочна, што беларускі правапіс значна прасьцейшы за нормы пісьма на згаданых мовах. Паказальна, што тымі ж матывамі — спрашчэньня — абгрунтоўвалі зьмену артаграфіі мовы ўкраінскае.

Настойлівыя размовы пра неабходнасьць спрашчаць, папулярнасьць лёзунгу спрашчэньня ў пэўнай ступені вынікалі з экстрапаляцыі на мовы *малодшых славянскіх братоў* патрэбаў, якія мела мова расейская: мінула крыху больш за дзесяцігодзьдзе з моманту правядзеньня бальшавікамі правапіснае рэформы галоўнай мовы СССР (1918), і ў людзкой сьведамасьці была жывая памяць пра артаграфічную рэвалюцыю ў мове-гегемоне.

Інэрцыя вымяраць усё ў беларускай мове нормамі расейскімі з таго часу толькі ўзмацнілася. І сёньня значная частка «беларускамоўных па няволі» — настаўнікаў, працаўнікоў мэдыйнае й выдавецкае сфэраў, якія не карыстаюцца беларускаю моваю па-за службовымі патрэбамі, — схільная скардзіцца на занадта складаныя правілы, чаго для антыбеларускай прапаганды дастаткова.

На пачатку 1930-х, спэкулюючы на такіх заявах далёкіх, а часам і варожых ідэям беларусізацыі людзей, прапаганда не пераставала ў большай ці меншай ступені пераконваць грамадзтва ў насьпеласьці такога разьвязаньня, а самыя шумныя й адыёзныя крытыкі атрымалі права голасу на рэгулярных у тую эпоху сходах працоўных калектываў, што й лічылася актамі выражэньня волі народу[22].

Асабліва настойліва загучала тэма спрашчэньня, аблягчэньня працэсу авалоданьня беларускім пісьмом — з 1932 г., калі толькі што прысланы з Масквы на пасаду 1-га сакратара ЦК КП(б)Б (фактычна — кіраўніка БССР) Мікалай Гікала выступіў з ініцыятываю — абвясьціць Савецкую Беларусь рэспублікаю ўсеагульнай пісьменнасьці.

Уся лёгіка штодзённасьці настройвала грамадзтва на новыя й новыя ператварэньні, на безупынны працэс удасканальваньня, спрашчэньня, «ламаньня штуч-

[21] Два першыя праекты (1930 і 1933 гг.) мы ўжо асьвятлялі. Наступныя праекты (1939, 1951, 1999—2003 гг.), Пастанова-1957, Правапіс-1959 і, натуральна, Правапісны закон-2008 будуць разглядацца ніжэй.

[22] Хоць некаторыя з правілаў афіцыйнага правапісу й сапраўды больш падобныя да рэбусаў, прыкладам, аб правапісе **ў** у пазычаньнях. Пра гэта мы пісалі ў: ARCHE. 2007. № 3 (54). С. 125—131.

ных перашкодаў». Партыя праз агітпроп, натуральна, усяляк стымулявала такія настроі ды скіроўвала іх у пажаданае для яе рэчышча.

Але ж, як вядома, простасьць — не галоўная вымога, стасаваная да правапісу. Значна больш істотная рыса артаграфічнае сыстэмы, здольная зрабіць функцыйнымі нават сапраўды складаныя, «заблытаныя» правапісныя нормы, — *стабільнасьць*. Але ж у той час яна не інтэрпрэтавалася як каштоўнасьць, а выключна як праява застою, нежыцьцяздольнасьці, якой супрацьстаўлялася імкненьне да зьменаў, *абнаўленьня*, якое разумелася ня як аднаразовая акцыя, а як пэрманэнтны працэс. Камуністычная ідэалёгія нястомна жывіла настроі няўпыннага поступу — найперш, зразумела, у галіне грамадзкага быцьця. Аднак такое стаўленьне экстрапалявалася на ўсе праявы жыцьця, у тым ліку — на мову.

У такой атмасфэры любыя зьмены не маглі разглядацца як канчатковыя, надалей непарушныя. Таму й Пастанова-1933 бачылася як *чарговы* ўдар па нацдэмах, за якім мусілі пасьледаваць далейшыя ўдары па далейшых ворагах і мішэнях:

*27 [апошні пункт Пастановы-1933]: Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы і Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук арганізаваць сыстэматычную навуковую працу* па далейшым разьвіцьці і ўпарадкаваньні *беларускага правапісу, усяе граматыкі і тэрміналёгіі, а таксама арганізаваць новае выданьне беларуска-рускіх слоўнікаў, вытраўляючы з беларускай мовы ўсялякія буржуазна-нацыяналістычныя плыні і скажэньні.*

## На калене пісана

Шырэйшая грамадзкасьць атаесамляе зьмест рэформы 1933 г. зь дзейнымі дагэтуль Правіламі-1959. Аднак у сапраўднасьці артаграфічныя зьмены канца 1950-х вельмі **істотна зьмянілі графічнае аблічча мовы, але не прынесьлі спрашчэньня**. Некаторыя з уведзеных рэформаю правілаў прапаноўвалася зьмяніць ужо ў наступных правапісных праектах (1939 і 1951 гг.), і гэта зрабілі практычна адразу ж у выніку зьмены палітычнага рэжыму — пасьля «разьвянчаньня культу асобы» (1956), пра што будзе гутарка ніжэй.

*Часовасьцю, апэратыўнасьцю* Пастановы-1933 як бы *злагоджваліся* відавочныя хібы дакумэнту — яго *супярэчлівасьць, нявыверанасьць, эскізнасьць,* нават *неахайнасьць*. Зрэшты, гэтак пасьпешліва, похапкам створаны тэкст наўрад ці мог быць падрыхтаваны лепш. Зь іншага боку, ад яго й не патрабавалася быць дасканалым — усё можна паправіць, перапісаць, загадаць і адмяніць загад.

Вядома ж, ня ўвесь тэкст Пастановы-1933 зьявіўся за месяц — ён пераняў усе прапановы Праекту-1933, якія прадугледжвалі збліжэньне з расейскаю моваю[23].

[23] Вынятак складае прапанова, зробленая ўжо ў працэсе абмеркаваньня і ўключаная ў брашуру ў якасьці дадатку да асноўнага тэксту Праекту-1933 — пісаць **-й** на канцы пачатковае формы дзеепрыметнікаў: *пануючы**й***, *існаваўшы**й***, каб разьвесьці іх напісаньне (і, мусіць, вымаўленьне) з адпаведнымі дзеепрыслоўямі. Гэтая ідэя ня страціла прывабнасьці й для некаторых нашых сучасьнікаў (гл., напр.: А. П. Груца.

Як расейскацэнтрычнае таксама належыць інтэрпрэтаваць правіла пра напісаньне прыставак праз апостраф: *з'езд* (замест тарашкевіцкага *з**ь**езд*) на ўзор расейскага *с'езд*. Рэч у тым, што рэформа расейскага правапісу 1918 г. касавала **ъ** на канцы словаў, пакідаючы яму функцыю «разьдзяленьня» на сутыку прыстаўкі й кораня. Аднак каб выдаўцы й друкары ня мелі спакусы ўжываць **ъ** у дарэформавай функцыі, гэтую літару фактычна вывелі са стандартавага друкарскага набору, таму яе пачалі замяняць апострафам. Вяртаньне **ъ** у знаёмай нам якасьці «разьдзяляльнага знака» адбылося толькі пад канец 1930-х, калі рэформа расейскага правапісу ўтрывалілася ў практыцы.

Дарэчы, правіла пра замену разьдзяляльнага **ь** апострафам з Праекту-1933 «кантрабандаю» працягнула ў Пастанову-1933 напісаньне праз апостраф і ў тых выпадках, дзе ў расейскай мове пішацца разьдзяляльны **ь**: *Лавуаз'е* (арт. 8) — параўн. расейск. *Лавуаз**ь**е*. Аднак ужо ў Праекце-1951 гэтую разьбежнасьць паміж беларускім і расейскім напісаньнямі прапаноўвалася скасаваць, што й зрабілі ў Правілах-1959.

І менавіта гэтая, «успадкаваная» ад Праекту-1933, частка дакумэнту тэхнічна падрыхтаваная найлепш. А вось «арыгінальныя» пункты Пастановы-1933 утрымліваюць супярэчнасьці, фактычныя й мэтадалягічныя памылкі ды недагляды. Асабліва вылучаецца гэтым арт. 17, зь якога складаецца асобны разьдзел, — «Правапіс уласных імёнаў, прозьвішчаў і геаграфічных назваў»:

*Імёны іншых моў і геаграфічныя назвы... падпарадкаваць наступным правілам беларускага правапісу:*

*а) аб аканьні (з захаваньнем «э», «е»): Чэрнышэўскі, Шэўчэнка, Плеханаў, Жэлезноў…*

*в) аб дзеканьні і цэканьні, калі зычныя «д» і «т» зьяўляюцца мяккімі ў іншай мове (Дзержынскі, Владзівасток, Дзюрынг)...*

*д) імёны іншых моў і геаграфічныя назвы не перакладаць як у поўным напісаньні, так і ў скарочаным, і пачатковае «О», «В», «Т», «Сч» пісаць праз «О», «В», «Т», «Сч»: Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, І. В. Сталін, Орджанікідзе, Терехаў, Владзікаўказ...*

1. Ужо сама́я назва разьдзелу ўтрымлівае нутраную супярэчнасьць: *прозьвішчы* і *геаграфічныя назвы* як элемэнты ўваходзяць у сэмантычнае поле *ўласныя назвы*.
2. У пункце *а* фактычна вядзецца не пра аканьне (неадрозьненьне **э** і **о** ў ненаціскным становішчы), а пра яго сэгмэнт — пераход ненаціскнога **о** ў **а**; апроч таго, як вынікае з абмоўкі «з захаваньнем... е», у іншамоўных словах адмяняецца яканьне, але беспасярэдняй згадкі пра яканьне няма.

Надзённыя праблемы беларускага мовазнаўства на пачатку XXI стагоддзя // Граматычны лад беларускай мовы. Шляхі гістарычнага развіцця і сучасныя тэндэнцыі: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, Мінск, 29–30 кастрычніка 2007 г. Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовазнаўства. — Мінск, 2007. С. 13—16. С. 15).

3. У пункце *в:*
   - — скарыстаны тэрмін *цэканьне*, г. зн. вымаўленьне **ц** на месцы **ч** (або *цоканьне*: ***ц**орны* замест ***ч**орны*), тут жа мусіў быць іншы тэрмін — *цеканьне*;
   - — складальнікі дакумэнту апэлююць да выпадку, калі «д» і «т» зьяўляюцца мяккімі ў іншай мове», аднак у пададзенай ілюстрацыі *Дзюрынг* (< Dühring) **d** зыходна — ня мяккі, хоць бы таму, што ў нямецкай мове няма апазыцыі паводле цьвёрдасьці/мяккасьці, інакш кажучы, гаварыць пра мяккасьць нямецкіх зычных бессэнсоўна; мяккасьць узьнікае якраз у расейскай мове пры асваеньні нямецкага **düh** як [д'у]; такім чынам пад «мяккасьцю ў іншай мове» маецца на ўвазе мяккасьць у расейскай.
4. У ілюстрацыйным шэрагу да пункту *в* (дарэчы, занадта кароткім) усе тры прыклады — на дзеканьне.
5. У пункце *д*:
   - — норма пісаць **о-** на пачатку ўласных назваў (***О**рджанікідзе*) пярэчыць аканьню — пункту *а*;
   - — норма пісаць **т-** на пачатку ўласных назваў (***Т**ерехаў*) пярэчыць цеканьню — пункту *в*;
   - — першыя дзьве ілюстрацыі (*Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, І. В. Сталін*) ня маюць дачыненьня да зьместу правіла, калі, вядома, не дапусьціць, што нехта меў бы сьмеласьць называць Сталіна *Восіпам* ці *Язэпам* (гэтыя словы ў Пастанове-1933 згадваюцца ніжэй, як магчымыя для ўжываньня толькі ў дачыненьні беларусаў);
   - — няма ніводнай ілюстрацыі на спалучэньне **Сч**[24].

З аднаго боку рэформа **падпарадкоўвала аканьню** ненаціскны **о** ў пазычаньнях. З другога — абвяшчала ўтварэньне новай, *артаграфічна-палітычнай* (!) катэгорыі — саветызмаў, г. зн. «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных словаў», якія, наадварот, **не падпарадкоўваліся аканьню**. Такім чынам, напісаньне слова, ступень яго асвоенасьці беларускаю моваю залежала ад яго *ідэйнага зьместу*.

Дазволім сабе ўсяго адну цытату, якая ня толькі дэманструе беспрынцыпнасьць рэформы й рэфарматараў у пытаньні аканьня, але й проста выдатна ілюструе іх рыторыку:

*Шмат нацдэмы нашкодзілі ў пытаннях «окання» ў словах іншамоўнага па-*

[24] Відаць, меліся на ўвазе прозьвішчы і ўласныя назвы накшталт расейск. *Счастливцев*. Адпаведнае правіла знаходзім у Праекце-1930: «Правіла 61. Іншаславянскія імёны, прозьвішчы і геаграфічныя назвы запісваюцца беларускім правапісам з перадачаю беларускага аканьня, зацьвярдзелых зычных, дзеканьня і цеканьня, «ў» нескладовага зам. «в» перад зычнымі і ў канцы слоў і беларускіх канчаткаў... *Увага*. Іншая фонэтызацыя іншаславянскіх уласных іменьняў і прозьвішчаў не дапускаецца. Прыклады: ... Счастліўцаў (а не Шчасліўцаў)...» (Беларускі правапіс (проект) / Апрацаваны Правапіснай Камісіяй Беларускае Акадэміі Навук. — Менск, 1930. С. 38.)

*ходжання. Такія словы, як «кааперацыя, калгас, трактар» і іншыя, пісалі праз «о», матывуючы гэта правіла тым, што слова «калгас, кааперацыя» і другія не прыняты беларускай мовай, не ўвашлі ў быт, што яны па сваёй прыродзе чужыя беларускай мове. Што словы «калгас» і падобныя ім чужыя і варожыя нацдэмам, гэта зразумела, як і зразумела буржуазна-класавая «апрацоўка» правапіса нацдэмаўскімі «слупамі мовазнаўства».*

*Улічваючы працэс асваення шырокімі працоўнымі масамі слоў іншамоўнага паходжання, мы абавязаны гэтыя словы перадаваць згодна іх вымаўлення, г. зн. праз «аканне», што ў пастанове СНК аб зменах у правапісе і праведзена.*

*Інтэрнацыянальна-рэвалюцыйныя словы, словы, якія народжаны пролетарскай рэвалюцыяй і якія ва ўсіх мовах сусвета пашырыліся вымаўленнем праз «о», і ў нашым новым правапісе гэтая рэвалюцыйная якасць захавана. Словы «комуна»… [далей — фактычна цытата з Дадаткаў да Пастановы-1933, пра якi гл. ніжэй] — пішуцца і ў нас праз «о», г. зн. захоўваецца ў корані іх першакрыніца і гэтым мова ўздымаецца на новую вышэйшую ступень развіцця па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма*[25].

* * *

Праз тры месяцы пасьля прыняцьця першае «правапіснае» пастановы, 3 сьнежня 1933 г., Галадзед падпісаў новую пастанову СНК «Дадаткі да пастановы СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса», якая «ўдасканальвала» жнівеньскі дакумэнт:

— пашыраўся сьпіс саветызмаў (да словаў: *рэволюцыя*, *совет*, *большэвік*, *комуна*, *соцыялізм*, *комунізм*, *Комінтэрн* — дадаваліся: *комсомол*, *піонер*, *Профінтэрн*);

— папаўняўся сьпіс ілюстрацыяў да арт. 17.д: *Владзімір Ільіч Ленін*, *В. І. Ленін*, *Тэрэк*, *Тэрэхоўка*, *Владзімірскі*, *Твер*. Тут жа выпраўлялася відавочна памылковае напісаньне *Терехаў*, дапушчанае ў Пастанове-1933;

— абмяжоўвалася (здавалася б!) выкарыстаньне дзеепрыметнікаў незалежнага стану толькі выпадкамі, «калі яны азначаюць соцыяльны сэнс, напрыклад: пануючы клас», інакш кажучы, у вельмі вузкім сэгмэнце словаўжываньня[26]. На практыцы ж калькаваньне расейскіх дзеепрыметнікаў на той момант ужо набыло сілы ў межах агульнамоўнага зрасейшчаньня, таму гэтая абмоўка ніяк не маг-

[25] Андрэй Александровіч. Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце і рэформа правапіса беларускай мовы [даклад на агульным сходзе пісьменьнікаў гор. Менска] // Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. Менск: Выд-ва БАН, 1934. С. 12—27. С. 21.

[26] Гэты пункт Палітычная камісія абмяркоўвала адмыслова на паседжаньні яшчэ 4 ліпеня 1933 г.: «В остальных случаях деепричастие не вводится, а написание соответствующих слов подчиняется прежнему правописанию» (Гісторыя беларускага мовазнаўства... С. 167).

ла паўстрымаць працэсу пранікненьня нехарактэрных для беларускай мовы дзеепрыметнікавых формаў ува ўсе сфэры ўжываньня мовы[27].

Прыняцьцём Дадаткаў *закончыўся першы этап* правапіснае рэформы 1933 г. Яшчэ ў хрушчоўскую «адлігу» і скрайняя непасьлядоўнасьць, і русіфікацыйныя мэты рэформы прызнаваліся за відавочныя:

*...не ўрэгуляваным засталося правіла аб перадачы акання і якання. Шматлікія неабгрунтаваныя выключэнні з гэтага правіла не ўносілі жаданай палёгкі пры напісанні іншамоўнай лексікі, вельмі складаным і неўпарадкаваным было правіла напісання складаных слоў. Выклікала цяжкасці і арфаграфічны разнабой правіла аб пераходзе* ***д*** *і* ***т*** *у* ***дз'*** *і* ***ц'****. Блытана і супярэчліва былі сфармуляваны правілы напісання імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў...*

*Тым не менш, нягледзячы на недахопы, пастанова СНК БССР увогуле выканала сваю задачу*[28]*...*

*...наколькі гэта магчыма, наблізіць беларускі правапіс да рускага*[29].

*(Працяг будзе.)*

[27] Паддаліся «прагрэсіўным тэндэнцыям» нават такія мастакі слова, як Якуб Колас; каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць часьціню ўжываньня названае катэгорыі дзеепрыметнікаў у розных кнігах раману «На ростанях», напісаных у розны час. Хоць сам Колас крытыкаваў выкарыстаньне такіх формаў у беларускай мове (Павел Сцяцко. Культура мовы. — Мінск, 2002. С. 49).

[28] Я. М. Камароўскі. Беларускі правапіс. — Мінск, 1965. С. 31—32.

[29] Тамсама. С. 25.

## ⌘ АНАЛІТЫКА

ЗЬМІЦЕР САЎКА

# Мазаічная артаграфія

## З нагоды прыняцьця Правапіснага закону–2008

Працяг. Пачатак у №№ 11, 12 за 2008 г.

### 3. НА ПАЗЫЦЫЯХ МОВАЗНАЎЧАГА ФРОНТУ

### Сход у трох актах, або Тэатар ганьбы

Жнівеньская Пастанова-1933 і сьнежаньскія Дадаткі-1933 абвясьцілі новыя правілы гульні — **першы этап рэформы** быў скончаны. Пра заканчэньне гэтага этапу барацьбы зь беларускім нацыяналізмам, праз тры дні пасьля публікацыі Дадаткаў, пленум ЦК КПБ(б) прымае пастанову «Па рэзалюцыі пленума ЦК КПБУ аб выніках нацпалітыкі ва Украіне»[1]. Наступным крокам было — змусіць галоўных гульцоў, «творчую інтэлігенцыю», найперш «пісьменьніцкую грамадзкасьць», трымацца новых правілаў і сваім аўтарытэтам схіліць да таго ж гульцоў паспалітых, а таксама «даць адпор заходнебеларускім нацыянал-фашыстам», якія сустрэлі рэформу зьнішчальнаю крытыкаю.

Кіраўніцтва БССР сьпяшалася адсправаздачыцца Маскве: трэба было належна — новымі перамогамі над ворагамі — сустрэць XVII зьезд Кампартыі ў студзені 1934-га.

Ужо праз два дні пасьля апублікаваньня Дадаткаў[2] улады склікалі «агульны сход пісьменнікаў Менску», які адбываўся ў Беларускім дзяржаўным тэатры (сёньняшні Купалаўскі) і працягваўся тры вечары — 11, 13 і 15 сьнежня. Пісьменьнікі мусілі ня проста прыняць новыя правілы да выкананьня. Партыя запатрабавала ад іх сьведчаньняў ляяльнасьці, гатовасьці адмовіцца ад таго, што яшчэ ўчора было для іх прынцыповым. Сход цалкам ухваліў палітыку партыі,

***Зьміцер Саўка*** *— мовазнавец, адзін з аўтараў выданьня «Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя» (Вільня—Менск, 2005).*

пра што адрапартавалі ня толькі Сталіну (гэта цалкам адпавядала этычным нормам эпохі)[3], але таксама і... найвышэйшым кіраўнікам УССР — цкавальнікам Скрыпніка, галоўным зьдзяйсьняльнікам Галадамору — паляку Станіславу «Касіору»[4] і расейцу Паўлу Постышаву[5] — як галоўным натхняльнікам (?) беларускіх таварышаў у справе рэфармаваньня беларускае мовы. Як мы адзначалі ў папярэдніх публікацыях цыклю, украінскі сьлед у гэтай гісторыі не выпадковы: на яго настойліва ўказвалі пільныя таварышы, у тым ліку — аўтары кнігі «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі»[6], якая сталася своеасаблівым тэарэтычным падмуркам барацьбы зь «беларускім буржуазным нацыяналізмам»:

*Як вядома, беларускія нацдэмы ўсё пераймалі ў дакладнасьці ад сваіх украінскіх таварышаў па зброі... украінскія і беларускія контррэвалюцыянэры наладжваюць цесную сувязь і абмен думкамі адносна прынцыпаў укладаньня слоўнікаў*[7].

Па выніках сходу выйшла кніга «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» (Менск, 1934) — пад рэдакцыяй усё таго ж Андрэя Александровіча, які выступіў на сходзе з асноўным дакладам. Сымптаматычна, што тытул быў прадубляваны на ангельскай мове: «*The writers of W-RSSR about the reform of the orthography of the White-Russian language*», што, відаць, мусіла дадаваць выданьню рэспэктабэльнасьці й нават навуковасьці. Аднак зьмяшчэньне ангельскага тытула мела, несумненна, і больш важную мэту — сьцьвердзіць у якасьці адпаведнікаў для словаў *Беларусь*, *беларускі* расеяцэнтрычныя формы *White-Russia*, *White-Russian*, чаго «нацдэмы» пазьбягалі, ужываючы іншыя формы, напр.: *alboruthenica*, *blanche-ruthenienne*, *Weissruthenien*[8]. Брыгада марксістых-леніністых пытаньню вонкавай рэпрэзэнтацыі найменьня Беларусі й беларушчыны прысьвяціла асобную ўвагу:

[1] Звязда. 1933. 10 снежня.

[2] Звязда. 1933. 9 снежня.

[3] Пра аўтарства прывітаньня правадыру можа ўскосна сьведчыць тая акалічнасьць, што імёны ўсіх падпісантаў прывітаньня падаюцца ініцыяламі або не падаюцца наагул, апроч аднаго — Андрэя Александровіча (Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. — Менск: Выд-ва Беларускай Акадэміі Навук, 1934. С. 8).

[4] Правільная форма прозьвішча *Косяр* (Kosior).

[5] Постышава адмыслова накіравалі з Масквы ва Ўкраіну ў студзені 1933 г. «для барацьбы з нацыяналістамі й кулакамі». Менавіта зь ягоным прыбыцьцём на месца разгарнулася «рэфармацыйная праца» ва ўкраінскай мове.

[6] «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі: Зб. / Беларуская Акадэмія Навук; Інстытут філёзофіі; Брыгада катэдры марксызму-ленінізму; Пад рэд. С. Я. Вольфсона. — Менск, 1931.

[7] Л. Бабровіч, Ів. Шпілеўскі, В. Бандарэнка, С. Вольфсон, Я. Мацюкевіч. Мовазнаўства // «Навука» на службе... Т. І. Ч. ІІ. С. 121.

[8] Напр.: Беларуская навуковая тэрміналёгія = La terminologie scientifique **blanche-ruthenienne**. Вып. 9. Nomina anatomica **alboruthenica**. — Менск, 1926; Матар'ялы да вывучэньня флёры і фауны Беларусі =

*Вынікам так званай заходняй орыентацыі нацдэмаў было зьнішчэньне імі агульнапрынятых перакладаў слова «Белоруссия» на чужаземныя мовы, як «Weissrussland» альбо «Russie Blanche», і замена іх уведзенымі нямецкімі акупантамі* [натуральна, маецца на ўвазе акупацыя ў часе І сусьветнае вайны. — *З. С.*] *«Weissruthenie», «Ruthenie Blanche». Гэтыя тэрміны былі ўзаконены ў нашых афіцыяльных выданьнях*[9].

Калі й пішуць пра рэформу 1933 г., пра гэты пісьменьніцкі сход згадваюць рэдка й неахвотна: чалавеку, для якога імёны Купалы, Коласа, Чорнага, Бядулі роўныя паняткам *Беларусь*, *беларускасьць*, *Бацькаўшчына*, цяжка чытаць гэты дакумэнт эпохі. Нават гісторык Леанід Лыч, даволі падрабязна спыніўшыся на тэме сходу ў адмысловым манаграфічным дасьледаваньні[10], не згадаў найбольш адыёзных заяваў, якія прагучалі з вуснаў першых велічыняў беларускае літаратуры таго часу.

За саветамі ж кнігу цытавалі значна ахвотней, каб падмацаваць аўтарытэтам клясыкаў *адзінаправільнасьць* зробленага выбару на карысьць русіфікацыі. Хоць і цяпер здараюцца выпадкі, калі вернападданьніцкія радкі, напісаныя ў імя выжываньня, пад пагрозаю арышту й зьнішчэньня, падносяцца за праявы шчырасьці, а агульныя месцы, характэрныя для тагачаснага БССРаўскага друку, — за выяўленьне песьняровае мудрасьці.

*Ускосна гэтую «канцэптуальную мэтазгоднасць»* [рэформы 1933 г.] *падтрымаў і Янка Купала: «Стары правапіс, у якім ня мала было засмечанасці, нацдэмаўскай «самабытнай» архаічнасці, трымаў беларускую мову ў палоне правінцыяналізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці». Папярэдзе было ўжытае азначэнне «ускосна», хаця цытаваны тэкст наўпрост адмаўляе старому правапісу ў хоць якіх вартасцях, але не забудземся, што Янка Купала ствараў допіс пад ідэалагічным прымусам, за што выразна сведчыць зневажальная лексіка. Аднак жа ніхто не замінаў Янку Купалу ў ганьбаванні «нацдэмаўшчыны» зрабіць акцэнт на чым заўгодна іншым, а не на* засмечанасці, «самабытнай» архаічнасці *ды* правінцыяналізме[11].

Тут без спасылкі цытуецца Купалаў тэкст са згаданай кнігі. Цытуецца з памылкамі і недакладнасьцямі, што ўказвае на факт «перацытоўваньня»: В. Аку-

Materialen für Erforschung der Flora und Fauna **Weissrutheniens**. T. I. — Менск, 1927; сэрыя: Працы навуковага таварыства па вывучэньню Беларусі пры БДАСГ у Горках = Arbeiten der Gelehrten Gesellschaft zur Erforschung **Weissrutheniens** bei der **Weissruthenischen** Staatlichen Akademie für Landwirtschaft in Gorky. — Горкі, 1927.

[9] Л. Бабровіч... Мовазнаўства // «Навука» на службе... Т. І. Ч. ІІ. С. 129.

[10] Рэформа беларускага правапісу 1933 года: ідэалагічны аспект. — Менск, 1993.

[11] Валянцін Акудовіч. Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці. — Мінск, 2007. С. 126.

довіч ня бачыў самой кнігі. На сходзе Купалы не было, таму ў выданьне ўключылі «Ліст народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў Беларускую Акадэмію Навук» ад 4 студзеня 1934 г.[12] Тэкст пачынаецца так:

*Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса...*

Калі б В. Акудовіч узяў Купалава выказваньне з арыгінальнага выданьня, а ня з трэцяй крыніцы, то мог бы лёгка пераканацца, што канцэпты *засьмечанасьць*, *архаічнасьць*, *правінцыялізм* (а не *правінцыяналізм*, як у Акудовіча) паўтараюцца з тэксту ў тэкст, з выступу ў выступ на тэмы барацьбы з нацдэмаўшчынаю ў мовазнаўстве — на іх абапіраецца ўся аргумэнтацыя патрэбы рэфармаваньня. Вось некалькі цытатаў.

А. Александровіч: *У сваіх перадсмяротных усхліпах нацыяналісты... тужацца выступіць... за сярэдневяковыя, архаічныя, вульгарныя «традыцыйна-самабытныя» формы пісьма* (С. 25).

Я. Колас: *Мёртвыя людзі, жывыя трупы... імкнуліся ажывіць, падняць з гроба мерцвяка, сярэдневяковую беларускую мову і самабытнасць* (С. 29).

К. Чорны: *Нацдэмы плачуць аб тэй «самабытнасці» беларуса, калі ён быў «не чалавек» і яго можна было эксплаатаваць беларусу з хутара або з маёнтка* (С. 43).

З. Бядуля: *Гэтая «самабытнасць» — маскіроўка самага заядлага класавага ворага* (С. 33).

Р. Мурашка: *Сярод масы беларускіх пісьменнікаў ёсць адзінкі... якім мова старых вясковых бабулек здаецца маннай нябеснай. Адгэтуль мы маем калупанне ў правінцыялізмах і архаізмах у Я. Скрыгана, у Ул. Хадыкі і некаторых іншых* (С. 65).

З «Прадмовы» да «Руска-беларускага слоўніка» (Менск, 1937, пад рэд. А. Александровіча): *Нацдэмы засмечвалі яе [мову] архаізмамі, мёртвымі словамі* (С. V).

У іншым месцы Александровіч таксама зьвяртаецца да твораў Хадыкі: *Мова яго вершаў перасыпана архаізмамі, не прынятымі совецкай літаратурай правінцыялізмамі*[13].

Тое самае паўтараюць усе без выключэньня выступоўцы — К. Крапіва, А. Куляшоў, П. Галавач, М. Зарэцкі, М. Хведаровіч, М. Лынькоў ды інш. Ад беларускіх калегаў па пісьменьніцкім рамястве не адстаюць габрэйскія паэты Ізі Харык і Майсей Кульбак, паводле нацыянальнае прыкметы громячы «яўрэйскіх фашыстаў» і «сіяніст-фашыстаў».

[12] Пісьменьнікі БССР... С. 87—90.

[13] А. Александровіч. Літаратурная крытыка ў хвасце літаратурнага руху // Звязда. 1933. 20 снежня.

Мы не выключаем, што Купала нават і не пісаў гэтага тэксту (у той час была такая практыка), а выказаў згоду — магчыма, маўклівую — на тое, каб такія выказваньні прыпісалі яму. Прынамсі, на думку некаторых купалазнаўцаў, іншы ліст, «пакаяльны», у якім пасьля спробы самагубства нібыта сам Купала каецца ў сваіх нацыяналістычных грахах, за яго напісаў «трунар» беларускіх літаратараў Лукаш Бэндэ.

І Купалаў давер да Тарашкевіча як да мовазнаўцы[14], і матэрыялы ягонага ўдзелу ў працы правапісных камісіяў і Акадэмічнае канфэрэнцыі 1926 г.[15], і ў пасьляакадэмічнай, што склала Праект-1930 (і там і тут ён звычайна выступаў за захаваньне статусу-кво), — усё гэта робіць неправаканаўчымі прыпушчэньні В. Акудовіча, *нават калі й не зважаць на кантэкст эпохі*.

Дарэчы, сваёй традыцыйнасьцю ў правапісных пытаньнях Купала выразна адрозьніваўся ад Коласа, які часта ішоў за іншымі моўнымі аўтарытэтамі — за сваймі роднымі дзядзькамі Антонам і Язэпам Лёсікамі[16]. Старэйшы брат, Антон Лёсік, быў аўтарам адзінай менавіта артаграфічнай кадыфікацыйнай працы лацінкаю — «Biełaruski pravapis» (Miensk, 1943; стэрэатыпнае выданьне: New York, 1962); пасьля вайны ад ГУЛАГу яго выратавала толькі заступніцтва знакамітага пляменьніка. Малодшы брат, Язэп Лёсік, як вядома, зь сярэдзіны 1920-х выступіў галоўным крытыкам тарашкевіцы й навязаў вышэйзгаданай канфэрэнцыі азбучна-правапісны акцэнт, і калі б ня пэўны «кансэрватызм» навукоўцаў і літаратараў (у тым ліку Купалы), іх падтрыманьне асноваў клясычнага стандарту, то сёньня тэкст, напісаны па-беларуску, мог бы выглядаць зусім інакш: Я. Лёсік прапаноўваў зьмяніць самы́я прынцыпы беларускага пісьма і ўвесьці шэраг новых літараў: **ј**, **є**, **и**, **ӑ**, **ӂ**[17]. Рэформа ж якраз *пакінула пераважную большасьць прынцыпаў «тарашкевіцы» некранутымі*, у тым ліку — набор графічных сродкаў.

Таму калі ўжо разьбірацца ў правапісных прэфэрэнцыях нашых клясыкаў, то наўрад ці Колас прыдасца на ролю мудрага бацькі беларускай артаграфіі, якім спрабуе зрабіць яго В. Акудовіч:

[14] У якасьці доказу можа служыць ліст Купалы да Тарашкевіча (В. П. Рагойша. З купалазнаўчых росшукаў: За радкамі аднаго пісьма // Народныя песняры: Да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа: Зб. арт. — Мінск, 1972. С. 253—257. С. 254).

[15] Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістапада 1926 г.). — Менск, 1927. Асабліва паказальны разьдзел: Пайменны паказьнік паданых галасоў за прынятыя і адхіленыя рэзолюцыі Правапіснай Комісіі (с. 428—429).

[16] На Акадэмічнай канфэрэнцыі толькі аднойчы Колас не згадзіўся зь дзядзькамі — у пытаньні правапісу словаў *няма*, *няхай*, падтрымаўшы прапанову Сьцяпана Некрашэвіча афармляць гэтыя словы праз **і**: *німа*, *ніхай* (Працы... С. 429).

[17] Язэп Лёсік. Да рэформы беларускай азбукі // Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. — Менск, 1927. С. 115—123.

*На мой погляд, правапісная рэформа 1933 году, за выняткам палітычна абумоўленых дурноцціяў (часткова скасаваных у 1957 годзе **з ініцыятывы Якуба Коласа*** [вылучэньне З. С.]*)... плённа мадэрнізавала беларускую мову, надала ёй дынамізму, так неабходнага ў пару індустрыялізацыі ды урбанізацыі, і годна падрыхтавала яе да «выбуху камунікацыяў»*[18].

Да пытаньня, наколькі рэформа падрыхтавала мову да *«выбуху камунікацыяў»*, мы яшчэ вернемся. А што да ўдзелу Коласа ў правапісных зьменах 1957—1959 гг., то нагадаю, што ў 1957 г. ён ужо ня жыў, таму ніякай ініцыятывы праяўляць ня мог. І не пад Пастановаю-1957, а пад Праектам-1951[19] — з чарговымі русіфікацыйнымі прапановамі — стаіць Коласаў подпіс. Але ж зноў-такі няма ніякае пэўнасьці, што Колас меў дачыненьне да гэтага дакумэнту, бо апошнія гады жыцьця, апроч выкананьня абавязкаў жывога клясыка, яшчэ й цяжка хварэў, таму браць чынны ўдзел у працы, якая патрабуе столькі сілаў і часу, проста фізычна быў ня ў стане[20].

Забягаючы наперад, адзначым, што ў Праекце-1951 сапраўды ўжо не вылучалася асобная артаграфічная падсыстэма — «інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы» (дапускаем, менавіта гэта меў на ўвазе В. Акудовіч пад «дурноцьцямі»), таму ўсе адзінкі, што паводле Пастановы-1933 уваходзілі ў гэтую падсыстэму, цяпер мелі падпарадкоўвацца агульным правілам. Але ж ня ўсім гэтым словам прапаноўвалася надаць аблічча, якое яны набылі ўжо пасьля 1957 г. (гл. табліцу 1).

Табліца 1.
Эвалюцыя правапісу «саветызмаў»

| **РБС-1928**[21] | **Пастанова-1933** | **Праект-1951** | **Пастанова-1957** |
|---|---|---|---|
| *пі**я**нер* | *пі**о**нер* | *пі**а**нер* | *пі**я**нер* |
| *с**а**цы**я**лізм* | *с**о**цы**я**лізм* | *с**а**цы**а**лізм* | *с**а**цы**я**лізм* |
| *пр**а**летар**’я**т* | *пр**о**летар**ыя**т* | *пр**а**летар**ыа**т* | *пр**а**летар**ыя**т* |

[18] В. Акудовіч. Цыт. тв. С. 126—127.

[19] Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу, распрацаваны Арфаграфічнай камісіяй Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам правадзейнага члена АН БССР Якуба Коласа. — Мінск, 1951.

[20] Гл. напр.: М. І. Мушынскі. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці. — Мінск, 1982.

[21] С. Некрашэвіч, М. Байкоў. Расійска-беларускі слоўнік. — Менск, 1928.

Ці ініцыяваў гэтыя правапісныя зьмены сам Колас — цьвердзіць не выпадае, пасьля страшных 1930-х ён стараўся мінімальна выяўляць сваю пазыцыю. (Падрабязьней ролю народнага паэта ў гісторыі беларускага правапісу мы плянуем разгледзець у наступных публікацыях гэтага цыклю.)

## (Аўта)партрэт Галоўнага Рэфарматара на фоне эпохі

Справу «разгрому нацдэмаўшчыны на мовазнаўчым фронце» даручылі ачоліць маладому дзіцячаму паэту і крытыку, а адначасна праверанаму камсамольцу — Андрэю Александровічу, чыю творчасьць рэдагаваны ўсё тым жа Лукашом Бэндэ часопіс «Камуністычнае выхаваньне» яшчэ ў 1931 г. назваў «вялікім дасягненьнем нашай дзіцячай літаратуры»[22]. І было за што хваліць: малады талент праявіў сябе як заўзяты пагромшчык Купалы й Коласа, цкавальнік іншых старэйшых беларускіх дзеячаў[23]. Хоць пазьней, ужо на гулагаўскіх нарах, пішучы ліст з просьбаю перагледзець ягоную справу, ён цьвердзіў:

*У меня с Я. Купала, Я. Колосом были только такие отношения, которые благоприятствовали творческой работе, борьбе за советскую поэзию*[24].

Спадзеў на тое, што Александровічава блізкае знаёмства з пакінутымі на свабодзе клясыкамі неяк дапаможа зьняволенаму, рухаў і рукою ягонае жонкі:

*Жизнь моего мужа проходила на глазах у всех. Спросите о нем у Купалы, у Коласа, у Лынькова, которые его прекрасно знали и которые были его близкими друзьями*[25].

Калі Александровіч ачоліў барацьбу з нацыяналізмам у лінгвістыцы — яму было ўсяго дваццаць сем.

Да траўня 1933 г., калі Александровіча «запрасілі» ў склад Палітычнае камісіі для перагляду руска-беларускага слоўніка і новых правілаў правапісу беларускай мовы — разам зь першымі асобамі ў кіраўніцтве БССР — ён ніколі лінгвісты-

[22] А. Якімовіч. Праблемы сучаснай дзіцячай літаратуры // Камуністычнае выхаваньне. 1931. №3—4. Сакавік-красавік. С. 65—79. С. 77. Цікава, што тут жа адзначаецца як дадатнае: «У кніжцы А. Александровіча «Як дзеці дапамаглі будаваць самалёт» нават усе піонэры адзеты ў традыцыйныя, «самабытныя» вышываныя кашулі, з адпаведнымі паясамі і іншымі атрыбутамі».

[23] У 1928 г. «Полымя» (№ 1) надрукавала першую частку Александровічавай паэмы «Цені на сонцы», дзе ён у зьнішчальна-выкрывальніцкім сьвятле вывеў шэраг постацяў беларускае нацыянальнае эліты; апошнюю частку толькі праз паўтара году ўзяўся друкаваць адно ягоны «хатні» «Маладняк» (1929, №5—6).

[24] Ліст А. Александровіча ў ЦК КП(б)Б ад 1 студзеня 1940 г. з г. Дудзінкі Краснаярскага краю. Публікуецца ўпершыню; з архіву Леаніда Маракова.

[25] Ліст Б. А. Гальперынай-Александровіч сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку ад 3 ліпеня 1940 г. зь Менску. Публікуецца ўпершыню; з архіву Леаніда Маракова.

каю не займаўся. Аднак выбар ягонае кандыдатуры быў не выпадковы. Свой першы й да 1933 г. адзіны ўнёсак у разьвіцьцё беларускае мовы ён зрабіў, далучыўшыся да актыўнага байкоту Акадэмічнае канфэрэнцыі 1926 г. маладнякоўцамі:

*Мне радасна і прыемна ўспамінаць, што маладнякоўцы ўсе як адзін на чале з Міхасём Чаротам... дэманстратыўна адправілі свае запрашальныя білеты яе* [канфэрэнцыі] *завадатарам*[26].

Відаць, палымянага барацьбіта за савецкую беларускую мову партыя прыкмеціла, а таму й прызначыла быць галоўным мовазнаўцам рэспублікі: апроч таго, што ён вядзе рэй ува ўсіх расправах над «нацдэмаўскімі мовазнаўцамі й мовазнаўствам», — у 1934 г. яму давяраюць дырэктарстваваць у Інстытуце мовы Беларускай Акадэміі навук, фармаваць падваліны моўнае сыстэмы — рэдагаваць кадыфікацыйныя працы (пра тое, якімі гэтыя працы атрымаліся, гутарка ніжэй). Партыя належна ацаніла бескампраміснасьць тав. Александровіча — у наступныя гады ён становіцца:
— намесьнікам старшыні праўленьня Саюзу савецкіх пісьменьнікаў (ССП) БССР;
— чальцом-карэспандэнтам БАН;
— чальцом ЦВК БССР;
— кандыдатам у чальцы ЦК КП(б)Б;
— дэлегатам VIII надзвычайнага зьезду Саветаў СССР (1936) — фармальна — найвышэйшага заканадаўчага органу Савецкага Саюзу;
— сябрам Рэдакцыйнага камітэту, які «рэдагаваў» Канстытуцыю СССР, званую сталінскаю[27].

Як «літаратуразнавец», ён публічна і ў друку выступае з сацыялягізатарскаю крытыкаю, зьніштажаючы ўжо творчасьць літаратараў «дакастрычніцкага пэрыяду»: Дунін-Марцінкевіча, Багушэвіча, Багдановіча, нашаніўцаў. Зорка Александровіча закацілася 2 ліпеня 1938 г., калі прыйшлі і па яго[28]. У 1947-м яму зьмяншаюць тэрмін і выпускаюць, каб праз два гады пасадзіць паўторна, у 1955-м ён зноў на волі, паміраe ў 1963-м, пражыўшы ўсяго пяцьдзясят сем гадоў.

Якія матывы рухалі гэтым чалавекам? Няўжо прага хадзіць па галовах дыктавалася выключна кар'ернымі меркаваньнямі? Яўхім Кіпель — актыўны

[26] У гэтым Александровіч сам прызнаецца зь непрыхаваным гонарам у выступе на III пленуме СП БССР у 1957 г. (Літаратура глыбокіх чалавечых пачуццяў // Андрэй Александровіч. Зб. тв. У 2 т. Т. 2. Паэмы, публіцыстыка. — Мінск, 1963. С. 331—335. С. 334.)

[27] У часе катаваньняў у «амэрыканцы» (нутраной турме НКВД БССР) да паўсьмерці зьбітага па геніталіях Александровіча сьледчы хвастаў брашураю з «рэдагаванаю» Александровічам жа Канстытуцыяй па твары й прыгаворваў: «Вот тебе твоя конституция, которую ты редактировал».

[28] Дарэчы, энкавэдысты «ўзялі» Александровіча ў часе рыбнай лоўлі, з вудаю ў руках (зь непублікаваных успамінаў Паўла Пруднікава; паведамленьне Леаніда Маракова). Таму падчас сьледзтва энкавэдыстыя, дамагаючыся прызнаньня, пагражалі забіць яго і пусьціць чутку, быццам ён утапіўся.

ўдзельнік беларускага жыцьця ў Менску 1920-х гг. — пазнаёміўся з Александровічам у менскім нацыянальным клюбе «Беларуская хатка», ужо тады «будучы паэт... належаў да камсамолу, адначасна застаючыся актыўным сябрам Клюбу»[29].

*Ён нарадзіўся ў Менску ў 1906 годзе ў беднай работніцкай сям'і. Бацька ягоны памёр рана, а гадаваў яго айчым — шавец па фаху. Мажліва, Александровіч і пайшоў-бы шляхам рамесьніка за айчымам, каб не суседзтва з кампазытарам У. Тэраўскім. У царкве на Старажоўцы (раёне Менску) Тэраўскі даўгі час быў псаломшчыкам і арганізаваў там добры беларускі хор з моладзі. З хорам ён сьпяваў у царкве і даваў канцэрты беларускае песьні. У хоры сьпявала старэйшая сястра Александровіча — Алеся. Яна прыцягнула да сьпеваў і брата; ён трохі сьпяваў, трохі памагаў у служэньні.*

*Займаючыся з моладзьдзю ў хоры, У. Тэраўскі стараўся выраблящь з харыстаў нацыянальна сьведамых людзей...*

*Падзеі 1917 году, акупацыі, актыўная нацыянальная праца — усё гэта ўзрушыла жыцьцё Менску. [...] немалую актыўнасьць у гэты пэрыяд праяўлялі ў Менску і розныя сэкты, што пачалі дзеіць пасьля рэвалюцыі. Асаблівую ўвагу зьвярнулі сэктанты на беларускую моладзь. Яны запрашалі маладых людзей на свае сходы, адчынялі бясплатныя сталоўкі (а час тады быў цяжкі, галодны), мітынгавалі. На вялікі жаль, у бальшыні гэтых сэктаў панавалі прарасейскія настроі, і таму яны выступалі супраць беларускага вызвольнага руху. Пад уплыў аднае такое сэкты трапіў і Александровіч.*

*Беларускае грамадзтва, каб змагацца з прарасейскай прапагандай, адчыніла курсы беларусаведы для моладзі і для дарослых... Пайшоў на курсы і юнак Александровіч. На курсах ён пачаў выказваць накінутую яму сэктантамі ідэю аб непатрэбнасьці беларускай мовы.*

*Сталася так, што ягоныя выказваньні пачуў Лёсік. Лёсік — сапраўдны духовы бацька беларусізацыі — не любіў дыскусіяў ды развагаў аб тым, ці патрэбна беларусу беларуская мова. Калі нехта са слухачоў уздымаў такое пытаньне, дык Лёсік звычайна казаў: «Мы вас сюды не прасілі. Во Бог, а во парог», — і выганяў дыскутанта з курсаў. Мажліва, нехта і закіне, што такі мэтад не пэдагагічны, але гэты мэтад зрабіў сваю справу: слухачы ставіліся вельмі паважна да прафэсара і да прадмету. За такія заўвагі Лёсік выгнаў Александровіча з курсаў.*

*У хаце Александровіча вельмі хацелі, каб ён вучыўся, і папрасілі Тэраўскага залагодзіць канфлікт. Аўтарытэт Тэраўскага быў вялікі, і Александровіча згадзіліся прыняць зноў. У далейшым Александровіч паводзіўся паважна...*[30]

[29] Яўхім Кіпель. Эпізоды. — Нью Ёрк, 1998. С. 49.

[30] Яўхім Кіпель. Аб Андрэю Александровічу // Беларускі Голас (Таронта). 1963. № 104; Цытуецца з выд.: Яўхім Кіпель. Эпізоды... С. 53—55.

Інцыдэнт з Я. Лёсікам пралівае сьвятло на матывы, якія кіравалі Александровічам у дачыненьні гэтага чалавека (удзел у байкоце Акадэмічнае канфэрэнцыі, дзе Лёсік быў ключавою постацьцю; зацятасьць у выкрыцьці нацдэмаўскай дзейнасьці Лёсіка). Але і з Коласам, і асабліва з Купалам у яго складаліся даволі прыязныя стасункі:

*Будучы слухачом курсаў, ён пачаў пісаць вершы і дэклямаваць іх на спэцыяльных вечарынах моладзі... На яго зьвярнулі ўвагу Янка Купала і Цішка Гартны. Янка Купала меў спэцыяльныя гутаркі з маладымі паэтамі. У часе такіх гутарак выявілася, што ў Александровіча невысокая агульнаадукацыйная падрыхтоўка. Тады ён паступіў у пэдагагічны тэхнікум. Чатыры гады навучаньня ў пэдтэхнікуме далі Александровічу многа: ён даведаўся шмат аб псыхалёгіі дзяцей і пачаў пісаць вершы для дзяцей... Яго вершы выціскалі расейшчыну і спрыялі беларусізацыі.*

*У «Беларускай хатцы» Александровіч браў удзел у працы літаратурнай сэкцыі, якою, як ужо зазначалася, кіраваў Якуб Колас. Вершаваньне Александровічу давалася лёгка — ён у адну хвіліну мог скласьці на любую тэму вершык або эпіграму… Трэба адзначыць, што Якуб Колас не любіў ні злосных вершаў, ні злосных эпіграмаў, уся ўзгадаваўчая праца праходзіла вельмі інтэлігентна…*

*[У] гэты час пачаліся зьмены ў палітыцы...*[31]

У 1935 г. Алексадровіч выступіў у ССП БССР з дакладам «Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце ў БССР». Вось як ён характарызуе мэты выступу:

*Я пытался вскрыть классовые корни полонизации, указал множество примеров, как враги полонизмами и словами[,] созданными по националистическому образцу[,] старались оторвать белорусский язык от языка братского русского народа*[32].

Аднак ніжэй ён прызнаецца:

*Я, кстати[,] и не знаю польского языка[,] и за все годы моей литературной работы у меня нет ни одного перевода из польской поэзии, в то время, когда я систематически переводил произведения поэтов братских народов СССР.*

Тады наколькі абгрунтаваным выглядае цьверджаньне Александровіча пра палянізацыйную дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў? Нагадаем: у 1935 г. у Польшчы адбыўся канстытуцыйны пераварот, у выніку якога дзяржава ператварылася ў аўтарытарную прэзыдэнцкую рэспубліку; з гэтага моманту савец-

[31] Яўхім Кіпель. Аб Андрэю Александровічу… С. 55—56.

[32] Тут і далей цытаты са згаданага ліста А. Александровіча ад 1.1.1940.

кая прапаганда ў БССР падае Польшчу як галоўнага ворага, абвінавачаньне ў прапольскай дзейнасьці робіцца для НКВД ці не асноўным у дачыненьні рэпрэсаваных жыхароў Савецкай Беларусі.

*Находясь сейчас в изоляции, я всем сердцем радуюсь победам партии, освобождению трудящихся Западной Белоруссии. Но я лишен возможности воспеть эту радость. Меня лишили возможности быть в славных рядах Красной Армии и бить своим оружием польскую шляхту.*

Табліца 2.
Артаграфічныя разьбежнасьці ў выданьнях, рэдагаваных А. Александровічам у 1934—1937 гг.

| **Зьявы** | **Практыка 1934—1935 гг.**[33] | **РБС-1937** |
|---|---|---|
| «Тарашкевізмы» — афармленьне асобных пазычаньняў у адпаведнасьці з **дарэформаваю практыкаю** ў выпадках, не асьветленых у Пастанове- і Дадатках-1933, аднак што разыходзіліся з адпаведнымі месцамі ў расейскім пісьме | ***г**абінетны* (с. 47)<br>*дакум**а**нт* (с. 17)<br>*фе**ў**дальны* (с. 42) | ***к**абінетны*<br>*дакýм**е**нт*<br>*фе**а**дальны* |
| «Наркамізмы» — афармленьне асобных пазычаньняў **на ўзор расейскіх формаў**, хоць такія зьмены рэформаю не прадугледжваліся | ***і**сторыя*, ***і**старычны* (с. 14, 16, 21 і далей) | *гісторыя,*<br>*гістарычны* |
| Пашырэньне сьпісу «саветызмаў», не санкцыяванае рэформаю | *к**о**лектывізацыя* (с. 28) | *к**а**лектывізацыя* |
| Хаатычнае напісаньне **а**/**о** ў першай частцы складаных словаў | *п**о**ўнакроўны*, але *св**а**ечасова* (с. 32) | *п**о**ўнакроўны*,<br>*св**о**ечасова* |
| Беспарадкавы характар афармленьня спалучэньня «ёт + галосны» | ***іё**та*, ***іё**тацыя* (слуп. 8)<br>*Н**’**ю-**Іо**рк* (с. 38) | ***ё**тацыя*<br>*Н**ь**ю-**Ё**рк* |
| Нявызначанасьць умоваў для правядзеньня дзеканьня ў пазычаньнях неславянскага паходжаньня | *осе**ці**нскі* (слуп. 13) | *осе**ты**нскі* |
| Неакрэсьленасьць пры выбары словаўтваральных мадэляў і асноваў для прыметнікаў | *балты**ц**кі* (слуп. 3)<br>*малдав**ан**ская мова* (слуп. 11) | *балты**йс**кі*<br>толькі<br>*малдаўскі* |

[33] Спасылка на старонку (с.) паказвае, што вядзецца пра кнігу «Пісьменнікі БССР...»; спасылка на слупок (слуп.) — пра рэестар БелСЭ.

## Хаос нявызначанасьці

Адмова ад упарадкаванага клясычнага правапісу, ад выпрацаванага 15-гадоваю практыкаю ўжываньня «тарашкевіцы» — на карысьць цьмяна й супярэчліва сфармуляваных у Пастанове- й Дадатках-1933 прынцыпаў — фатальна адбілася на сытуацыі другой паловы 1933-га — пачатку 1934 г. Рэдактары, журналісты, пісьменьнікі, выкладчыкі, настаўнікі — усе, чыя прафэсійная дзейнасьць была зьвязаная зь беларускаю моваю, аказаліся бязь ясных артаграфічных арыенціраў. *З гледзішча ступені кадыфікаванасьці, іншымі словамі — акрэсьленасьці, цьвёрдасьці артаграфічнае нормы, першы этап рэформы адкінуў беларускае пісьмо на 20 гадоў назад.*

Нават сам Галоўны Рэфарматар даволі прыблізна ўяўляў сабе новае графічнае аблічча канкрэтных словаў і формаў. Для прыкладу мы прааналізавалі правапіс двух разнажанравых выданьняў: ужо згаданага вышэй — «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» — і аднаго з выпускаў рэестру для 10-тамовай Беларускай савецкай энцыкляпэдыі[34], якая так і ня выйшла. У табліцы 2 мы падаем толькі тыя рысы, што знайшлі іншае разьвязаньне ў першым кадыфікацыйным слоўніку, які мусіў замацаваць рэформу, рэглямэнтаваўшы «правапісныя паводзіны» ў канкрэтных сытуацыях[35] — у «Руска-беларускім слоўніку» (Менск, 1937; скарочана: РБС-1937).

*(Працяг будзе.)*

*Аўтар дзякуе Леаніду Маракову і Віталю Скалабану за каштоўныя зьвесткі.*

[34] Праект слоўніка / Рэдактары А. Александровіч, М. Арабей; Рэдакцыя Беларускай Совецкай Энцыклапедыі пры Беларускай Акадэміі Навук. Вып. IV. Мовазнаўства. — Менск, 1935.

[35] Уласна артаграфічны слоўнік выйшаў толькі пасьля вайны — у 1948-м.

ЗЬМІЦЕР САЎКА

# Мазаічная артаграфія

## З нагоды прыняцьця Правапіснага закону—2008

Папярэднія публікацыі цыклю друкаваліся ў №№ 11, 12 за 2008 г., у сёлетнім № 5.

## У пошуках «школьнае мовы»,

або Чарговая спроба выйсьці з «паралельнага сьвету»

*...сёньня [ініцыятары «тарашкевіцы»] ператварыліся ў сэкту, бо абралі для існаваньня паралельны сьвет. Замест таго, каб дамагацца зьменаў у афіцыйным правапісе, мы здаволіліся закрытымі асяродкамі сваіх выданьняў і ніяк не сутыкаемся з тым, што прынята называць моваю школы... Але рабіць гэта трэба на ўсеагульным узроўні, а не ў закрытых асяродках, што не інтэграваныя ў агульнанацыянальны моўны працэс...*

Сяргей Дубавец[1]

Пададзеная ніжэй рэцэнзія на новы акадэмічны слоўнік пісалася яшчэ сёлета ўвесну — неўзабаве па выхадзе кнігі. Пісалася не для «Архэ», чым тлумачыцца і адметная стылістыка, не характэрная для публікацыяў цыклю «Мазаічная артаграфія»; і ляпідарнасьць ды фрагмэнтарнасьць (працы такой рангу заслугоўваюць больш дэталёвага аналізу), і афіцыйны правапіс тэксту, і пэўная патэтычная квяцістасьць — у духу камсамольскай насьценгазэты. І — галоўнае — адсутнасьць яснай і бескампраміснай ацэнкі, якой заслугоўвае рэцэнзаваны слоўнік: непрафэсійнасьць і прафанацыя.

---

***Зьміцер Саўка*** *— мовазнавец, адзін з аўтараў выданьня «Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя» (Вільня—Менск, 2005).*

Рэцэнзія прызначалася для друку ў часопісе «Роднае слова» — паводле папярэдняе дамоўленасьці з галоўным рэдактарам выданьня Ўладзімерам Кулаковічам, які папрасіў «не размахвацца» і ўкласьціся ў часопісную старонку. Калі матэрыял быў гатовы, аказалася, што сп. Куліковіч працуе на сваёй пасадзе апошні дзень... Новае кіраўніцтва «Роднага слова» адмовілася друкаваць тэкст, што ня дзіва: рэдактар рэцэнзаванага выданьня ўваходзіць у рэдакцыйную калегію часопісу. Зрэшты, вось як гэта было...

| Выданьне | Прычына адмовы | Працягласьць вырашэньня пытаньня |
|---|---|---|
| Часопіс «Роднае слова» | «Ну, вы ж самі разумееце...» | 1 дзень |
| Часопіс «Беларуская мова і літаратура» | «Мы не даем рэцэнзіяў» — што праўда. Дарэчы, рэдактар слоўніка ўваходзіць у рэдкалегію. | Некалькі хвілінаў |
| Газэта «Звязда» | Без адказу. | |
| Ўэб-бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў | «Праз рассылку МАБ, арыентаваную ў значнай меры на замежнікаў, мы імкнёмся пашыраць толькі «станоўчыя» і выключна «безэмацыянальныя», без публіцыстычна-мастацкіх прыёмаў тэксты. Ваша зацемка такой не з'яўляецца, і таму рэдкалегія бюлетэня пасля абмеркавання прыйшла да высновы Вашу рэцэнзію ў рассылку не змяшчаць». | 2 дні |
| Квартальнік «Веснік БДУ» | «У акадэмічным інстытуце рыхтуецца новы арфаграфічны слоўнік, таму рэцэнзія не актуальная». | Прыблізна 3 месяцы |
| Часопіс «Полымя» | «Мы рэцэнзій на слоўнікі не публікуем[2]. І нават калі б публікавалі, гэта прыйшлося б чакаць апублікаваньня паўгода. Лепш разьмясьціце гэта ў інтэрнэце». | 1 гадзіна |
| Газэта «Літаратура і мастацтва» | «Пазваніце заўтра»... Назаўтра: «А мо табліцу зьнімем? Пазваніце ў чацьвер»... У чацьвер: «А давайце мы скароцім... І пазваніце ў панядзелак»... | Цягнецца да сёньня |

[1] Ганс вялікі і Ганс малы: Ці перажыве беларуская мова яшчэ адзін правапіс? // Свабода. 2007. 30 жніўня; тое ж: Наша Ніва. 2007. 6 верасьня.

[2] Насамрэч у «Полымі» ёсьць дзьве рубрыкі («Кнігарня» і «Скарбы мовы»), у якіх аналізуюцца слоўнікавыя выданьні. Ніжэй мы пералічваем рэцэнзіі на слоўнікі, якія зьявіліся на старонках згаданага часопісу за апошнія дваццаць гадоў:
1989. № 6: Г. Ф. Юрчанка. З паўднёва-заходніх гаворак (рэц. на: Дыялектны слоўнік Брэстчыны); № 11: Л. Баршчэўскі. Пачатак ёсць! (рэц. на: Нямецка-беларуска-рускі слоўнік). 1990. № 9: М. Путрова, Л. Баршчэўскі (рэц. на: Англа-беларуска-рускі слоўнік). 1991. № 8: Г. Юрчанка. Як у сук уляпіў (рэц. на: Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем); № 11: У. Сарока. Надзённы дапаможнік (рэц. на:

Складзем падрахунак часу: пісаўся тэкст цягам тыдня; пошукі выданьня, якое згадзілася б яго апублікаваць, занялі больш за чатыры месяцы.

Дарэчы, каб ацаніць абгрунтаванасьць адмовы з боку рэдкалегіі «Весніка БДУ», трэба ўлічыць наступнае: рэцэнзаваны слоўнік — **нарматыўны**, пра што паведамляецца ў прадмове (с. 3). Гэта значыць, што з яго выхадам (падпісаны да друку 8 сьнежня 2008 г.) **папярэдні нарматыўны слоўнік 1987 г.**[3] **перастае існаваць як нарматыўны**. Новы лексыкаграфічны даведнік на цяперашні момант «з'яўляецца нарматывам... вызначае норму, стандарты, правілы»[4] беларускай артаграфіі. Аж да 1 верасьня 2010 г., калі ўступіць у дзеяньне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі».

**Даведка**
**Нарматыўнасць — афіцыйная замацаванасць ці традыцыйная агульнапрынятасць пэўнай лінгвістычнай з'явы (П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / Пад рэд. М. В. Бірылы, П. У. Сцяцко. Мінск, 1990. С. 87).**

* * *

Чарговая[5] спроба *выйсьці з «паралельнага сьвету»* скончылася нічым. Засталося адно — *здаволіцца закрытым асяродкам свайго выданьня* і надрукаваць рэцэнзію ў «Архэ», бо нехта і НЕДЗЕ мусіў сказаць, што кароль — голы.

С. Грабчиков. Русско-белорусский словарь). 1992. № 5: Лаўрэн Юрага. Скарбніца нашай мовы (рэц. на: Вацлаў Ластоўскі. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік). 1994. № 4: Вера Хацкевіч. З родных сцяжын (рэц. на: Г. Ф. Юрчанка. Сучасная народная лексіка. З гаворкі Мсціслаўшчыны: [Слоўнік]). 1995. № 9: Георгій Юрчанка. Набыткі і недаробкі (рэц. на: Апанас Цыхун. Скарбы народнай мовы: [Слоўнік]). 1998. № 4: Віктар Ярац. Акіян роднага слова (рэц. на: Слоўнік мовы Янкі Купалы). 2000. № 2: Георгій Юрчанка. Жывое ў вяках беларускае слова (рэц. на: Н. В. Гаўрош. Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы). 2001. № 2: Павел Міхайлаў. Залацінкі роднай мовы (рэц. на: Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны). 2003. № 9: Іван Яшкін. Дыялектны слоўнік Мсціслаўшчыны (рэц. на: Г. Ф. Юрчанка. Народныя мудраслоўі: Слоўнік). 2004. № 2: Георгій Юрчанка. У водары народнага слова (рэц. на: Жывое наша слова: Дыялекталагічны зборнік); № 8: Марыя Шамякіна. Скарбонка беларускай культуры (рэц. на кн.: Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік). 2005. № 2: Таццяна Шамякіна. Аналітыка паэзіі (рэц. на: Вячаслаў Рагойша. Паэтычны слоўнік). 2006. № 10: Алена Багамолава. З павагай і ўвагай да слоўка (рэц. на: Слоўка за слоўка: Алфавітны даведнік па культуры беларускай мовы...). 2007. № 3: Мікалай Прыгодзіч. Са словам на «ты»... (рэц. на: Ніна Гілевіч. Дыялектны слоўнік).

[3] Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; пад рэд. М. В. Бірылы. — Мінск, 1987.

[4] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. — Мінск, 1979. Т. 3. С. 300. Арт. «Нарматыўны».

[5] Пра адну з папярэдніх мы адсправаздачыліся тут: Зьміцер Саўка. Калі Майсеі сыходзяць // Наша Ніва. 2007. 27 верасьня (скарочаны рэдакцыяй варыянт); поўны варыянт: http://community.livejournal.com/by_mova/282968.html

Зьмешчаная ніжэй рэцэнзія падаецца дакладна ў тым жа выглядзе, у якім яна прапаноўвалася пералічаным выданьням.

# Слоўнік-блытанік

Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы / І. У. Кандраценя, Л. П. Кунцэвіч; Інстытут мовы і літаратуры НАНБ; пад рэд. А. А. Лукашанца. — Мінск: ТетраСистемс, 2009. — 704 с. (Далей — Слоўнік-2009.)

*Типография не несет ответственности за грамматические ошибки в тексте.*

За эпіграф мы ўзялі фрагмент з укладкі да кожнага экземпляра Слоўніка-2009. Забягаючы наперад, адзначым: друкары нездарма выявілі такую абачлівасць...

**Правапісны аспект.** Гэты нарматыўны слоўнік выйшаў за паўтара года да ўступлення ў сілу новых «Правілаў арфаграфіі і пунктуацыі», зацверджаных (упершыню ў гісторыі не толькі беларускай, але і сусветнай — у форме закона) у 2008 г. парламентам і кіраўніком краіны (далей — Закон-2008).

Спецыялісты ўжо паспелі адзначыць, што ў Законе-2008 нямала месцаў, дзе правіла як такое адсутнічае, а замест яго ёсць спасылка на будучы слоўнік. Напр.:

§ 3.4. У запазычаных словах... напісанне **э**, **е** вызначаецца па слоўніку.

§ 4.5. У запазычаных словах напісанне **э** і **а** пасля зычных... вызначаецца па слоўніку...

§ 5.2. Ва ўсіх іншых выпадках напісанне падобных [складаных] слоў вызначаецца па слоўніку.

§ 11.2. Правапіс уласнабеларускіх і запазычаных слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па слоўніку...

§ 12.6. Зычныя **дз**, **ц** пішуцца ў некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца па слоўніку...

§ 17.2. У запазычаных словах, у тым ліку ва ўласных імёнах і назвах, і вытворных ад іх словах падвоеныя літары звычайна не пішуцца... Напісанне такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

§ 22.6. Напісанне прыставак **су-** і **са-** ў іншых выпадках вызначаецца па слоўніку.

Несумненна, без такога слоўніка, які здымаў бы ўсе пакінутыя Законам-2008 пытанні і няяснасці, немагчыма ўявіць сабе працэс аваладання новымі «Правi-

ламі». Аднак, на жаль, Слоўнік-2009 ніяк не выпадае назваць чаканым дарадцам. У Табліцы 1 мы паказалі толькі тыя выпадкі, калі Слоўнік-2009 пярэчыць не толькі духу (правілам), але і літары (канкрэтным напісанням) Закона-2009.

Табліца 1

| **Фанетычна-графічныя рысы** | **Закон-2008** | **Слоўнік-2009** |
|---|---|---|
| Аканне ў складанаскарочаных словах | *інтэрп**а**л, лінк**а**р, сельк**а**р* | *інтэрп**о**л, лінк**о**р, сельк**о**р* |
| Аканне ў запазычаннях | *альма-мат**а**р, грэйд**а**р, камп'ют**а**р, карц**а**р, крат**а**р, лід**а**р, менеджар, орд**а**р, прэсвіт**а**р, рэйсфед**а**р, тэнд**а**р, фарватар, форт**а**ль, шніц**а**ль, эспанд**а**р* | *альма-мат**э**р, грэйд**э**р, камп'ют**э**р, карц**э**р, крат**э**р, лід**э**р, менедж**э**р, орд**э**р, прэсвіт**э**р, рэйсфед**э**р, тэнд**э**р, фарват**э**р, форт**э**ль, шніц**э**ль, эспанд**э**р* |
| Яканне ў лічэбніках | *дз**я**вяты, дз**я**сяты, с**я**мнаццаць, вас**я**мнаццаць, пяцьдз**я**сят, шэсцьдз**я**сят, восемдз**я**сят* | *дз**е**вяты, дз**е**сяты, с**е**мнаццаць, вас**е**мнаццаць, пяцьдз**е**сят, шэсцьдз**е**сят, восемдз**е**сят* |
| Яканне ў запазычаннях | *пл**я**яда* | *пл**е**яда* |
| Цвёрдая/мяккая перадача **d**, **t** | *ар**ці**шок* | *ар**ты**шок* |
| Цвёрдасць/мяккасць зычных перад **э** | *квінтэс**э**нцыя, пан**э**ль, тун**э**ль* | *квінтэс**е**нцыя, тун**е**ль, пан**е**ль* |
| Перадача спалучэння **io** | *аўды**я**візуальны, аўды**я**касета* | *аўды**ё**візуальны, аўды**ё**касета* |
| Спалучэнне «**j** + галосны» | ***Ia**ркшыр, Папа**я*** | ***Йа**ркшыры, папа**йя*** |
| Асіміляцыя **т** — **ц'** перад **в'** | *я**ц**вяг* | *я**т**вягі* |
| Устаўны **в** | *еса**в**ул, еса**в**ульскі* | *есаул, есаульскі* |
| Правапіс прыставак **са-**, **су-** | *с**у**выканаўца, с**у**рэдактар* | *с**а**выканавец, с**а**рэдактар* |
| Напісанне **у** — **ў** пасля галосных | *ра**ў**нд, са**ў**на, фа**ў**на* | *ра**у**нд, са**у**на, фа**у**на* |

У прадмове складальнікі тлумачаць:

*Падача моўнага матэрыялу ў слоўніку грунтуецца на «Правілах...» (Мн., 1959). Гэта цалкам стасуецца з «Высновамі» Дзяржаўнай камісіі..., створанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь... 17 жніўня 1993 года... Гэтая камісія рэкамендавала да падрыхтоўкі і ўвядзення ў дзеянне новай*

*рэдакцыі «Правіл...» строга прытрымлівацца... «Правіл...», выдадзеных у 1959 годзе...*

Сапраўды, выхад слоўніка з такім правапісам быў бы своечасовым і ў 1993 г., і нават на пачатку 2008-га, калі яшчэ не быў прыняты Закон-2008, але не пасля яго зацвярджэння і парламентам, і галавою дзяржавы.

**Рэестр**. Складальнікі Слоўніка-2009 адзначаюць, што ў сваёй працы абапіраліся на «Слоўнік беларускай мовы» (Мінск, 1987; далей — СБМ) ды іншыя акадэмічныя лексікаграфічныя даведнікі. Аднак СБМ прыблізна ўдвая большы за свайго наступніка, — складальнікі Слоўніка-2009 істотна прарэдзілі рэестр, аднак пакінуўшы без зменаў хібы СБМ, у якім, як вядома, праігнараваны вялікі пласт беларускай лексікі.

Хоць аўтары Слоўніка-2009 і заявілі, што «аснову складае найбольш пашыраная агульнаўжывальная лексіка», аднак тут вы не знойдзеце добра вядомых кожнаму карыстальніку лексемаў: *баярын*, *боства*, *вернік*, *для*, *жнівеньскі*, *кат*, *наступства*, *панядзелак*, *святар*, *спадар*, *стыгнуць*. Затое ёсць мноства словаў, якія ў рэальных беларускіх тэкстах фактычна не сустракаюцца: *венгера-балгарскі*, *верхнетунгускі*, *гульдэн* (у Галандыі цяпер еўра), *вяцісты*, *кетмень*, *сандаліцца*, *спардэк*, *студэбекер* (але няма ні *мерседэс*, ні *таёта*, ні *форд*), *сэцэсія*, *чахахбілі*, *эксплантацыйны*. А таксама традыцыйна безліч русізмаў: *абоі*, *адрахлелы*, *Благавешчанне* (*Звеставанне*, *Дабравешчанне* — няма), *свяшчэннаслужыцель*, *сіяцельства* ды інш.

Зусім няясны выбар назваў народаў. Няма палачан (нашых продкаў), украінцаў і латышоў (нашых суседзяў), французаў, немцаў, славакаў, румынаў, туркаў, татараў і манголаў (затое ёсць *татара-мангольскі*), таджыкаў, туркменаў, казахаў, узбекаў, карэйцаў, кітайцаў (але ёсць *кітаязнавец*) і большасці іншых народаў. Затое значна шырэй рэпрэзентуюцца малыя народы Поўначы Расеі: *вепс*, *вепскі*, *вепсы* (множналікавая форма пры наяўнасці мужчынскай у множным ліку увогуле лішняя, між тым жаночай формы тут няма), *эвен*, *эвенк*, *эвенка* (прытым няясна, гэта найменне для жанчыны эвенаў ці эвенкаў), *эвенкі*, *энец*, *энка*, *энцы* (237 чал., звесткі 2002 г.), *эскімос*, *эскімоска*, *эскімоскі*, *эскімосы*. Не цяжка заўважыць, што ў некаторых выпадках падаюцца мужчынская, жаночая і множная формы, нават прыметнік, у іншых — толькі мужчынская або толькі множналікавая форма.

Далей у прадмове чытаем: «У слоўнік таксама ўключана новая лексіка, якая атрымала пашырэнне ў сучаснай моўнай практыцы, але яшчэ не зафіксавана ў слоўніках беларускай мовы (... *айкідо*... *аўтсайдар*... *кансэнсус* і інш.). Аднак слова *аўтсайдэр* (у Слоўніку-2009 яно адзінае з фіналлю **-эр** падаецца ў форме, адпаведнай Закону-2008) у СБМ ужо было, а *айкідо* і *кансэнсус*, насуперак сцвярджэнню складальнікаў, яны ў свой слоўнік так і не ўключылі.

Такім чынам, рэестр Слоўніка-2009 аказаўся перагружаны выпадковымі лексемамі, у той жа час праверыць правапіс тысяч высокачастотных слоў так і няма дзе.

**Словазмяненне**. Як і ў СБМ, у Слоўніку-2009 падаюцца і асноўныя граматычныя формы змяняльных часцін мовы, найперш назоўнікаў і дзеясловаў. Нават пры першым знаёмстве з адпаведнымі граматычнымі пазнакамі звяртае на сябе ўвагу іх **непаслядоўнасць**, **непрадуманасць**, а часам наогул **бессістэмнасць**. Напр., возьмем лексему *сховішча* і вытворныя ад яго складаныя словы ды паглядзім, якія канчатак прапаноўваюць складальнікі для формы множнага ліку роднага склону (гл. Табліцу 2).

Табліца 2

| **З варыянтнымі канчаткамі: *-ø*[6] і *-аў*** | **Толькі з канчаткам *-аў*** |
|---|---|
| бамбасховішча, -шч *і* -шчаў | агароднінасховішча, -аў |
| вінасховішча, -аў і -шч | бензасховішча, -аў |
| газасховішча, -шч *і* -шчаў | бульбасховішча, -аў |
| зернясховішча, -шч *і* -шчаў | вадасховішча, -аў |
| насеннясховішча, -ішч *і* -ішчаў | збожжасховішча, -аў |
| нафтасховішча, -ішч *і* -аў | фільмасховішча, -аў |
| паперасховішча, -шч *і* -шчаў | фондасховішча, -аў |
| сенажасховішча, -ішч *і* -ішчаў | фруктасховішча, -аў |
| сенасховішча, -ішч *і* -чаў | |
| сховішча, -шч *і* -чаў | |

Лік 10:8 на карысць *сховішч(аў)* з варыянтнымі канчаткамі! Аднак чаму *зернясховішча* мае гэтыя варыянты, а *збожжасховішча* — не, відаць, не адкажа ніхто, у тым ліку і складальнікі Слоўніка-2009.

Пры гэтым кідаецца ў вочы абсалютнае бязладдзе ў афармленні канчаткаў. Гэтак, поўны канчатак рэпрэзентуецца чатырма відамі афармлення: **-ішчаў**, **-шчаў**, **-чаў**, **-аў**, а нулявы — двума: **-ішч**, **-шч**. Такі хаос асабліва дзіўны ў эпоху камп'ютэрнай падрыхтоўкі тэкстаў, калі такія «няроўнасці» можна выправіць цягам пяці хвілін яшчэ на пачатковым этапе складання слоўніка. Дарэчы, чамусьці не вартую ўключэння ў рэестр слоўніка — асабліва на фоне *вінасховішча*! — складальнікі палічылі лексему *кнігасховішча*: яе ў слоўніку няма.

Або яшчэ. Канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду на ненацiскную фіналь **-да**/**-та** ў форме адзіночнага ліку меснага склону: *ваявода*, *-дзе*, але *тата*, *тату*, а

[6] -ø — нулявы канчатак.

вось *іуда*, *іуду і іудзе* (дарэчы, пры размеркаванне па алфавіце *іудзеі* чамусьці апярэдзілі *іспанцаў*).

Тут мы пералічылі толькі нязначную колькасць недакладнасцяў, супярэчнасцяў і проста памылак, якіх безліч у Слоўніку-2009, аднак якіх па вызначэнні не павінна быць у акадэмічным выданні. Але ж асабліва цяжка зразумець логіку складальнікаў, калі ўлічыць, што яны былі **суаўтарамі** новых «Правілаў». Няўжо левая рука не ведае, што робіць правая?! І калі ўжо складальнікі не згаджаліся з шэрагам сапраўды спрэчных рашэнняў, якія трапілі ў «Правілы», то сваю нязгоду варта было выражаць не **пасля**, а **да** прыняцця Закона-2008. І не коштам і без таго сціплых сродкаў, адпушчаных на выданне мовазнаўчай літаратуры. І не коштам заблытаных выкладчыкаў, школьнікаў і абітурыентаў, для якіх і прызначаецца Слоўнік-2009.

*(Канец рэцэнзіі)*

**P. S.** На прэс-канфэрэнцыі 18 верасьня 2009 г. дырэктар Інстытуту мовы і літаратуры член-карэспандэнт НАНБ:

*...А. А. Лукашанец выказаў занепакоенасць тым, што некаторыя прыватныя выдавецтвы, дзейнасць якіх, па сутнасці, **немагчыма пракантраляваць*** [усе вылучэньні — нашыя. — *З. С.*], *таксама ўжо рыхтуюць падобныя слоўнікі [арфаграфічныя для школьнікаў] **паўпадпольным спосабам**, дзе новаўвядзенні інтэрпрэтуюцца **адвольна і некампетэнтна**, а ў выніку там непазбежна будуць сустракацца адступленні ад «Правіл...»... Толькі калі будуць падрыхтаваны і выдадзены грунтоўныя слоўнікі, узгодненыя Міністэрствам адукацыі і Інстытутам мовы і літаратуры..., **можна будзе**, абапіраючыся на іх, і прыватнікам...»*[7].

[7] Мікола Чэмер. Яшчэ раз пра беларускі правапіс, або Пра тое, чаму беларусу смачней з'есці шніцАль, чым шніцЭль // Настаўніцкая газета. 2009. № 119 (6760). 19 верасня.